
Кастусёў дом→4

# Ніва


IV Бульбафэст→8


ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714

№ 40 (3047) Год LIX | Беласток, 5 кастрычніка 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**У верасні 1944 года, калі яшчэ не закончылася Другая сусветная вайна, у Бельску-Падляшскім былі арганізаваны чатырохгадовая Дзяржаўная беларуская гімназія і двухгадовы Дзяржаўны беларускі ліцэй, якія далі пачатак сённяшняму II Агульнаадукацыйнаму ліцэю з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча. Урачыстасці, прымеркаваныя да святкавання юбілею 70-годдзя дзейнасці Бельскага белліцэя, адбыліся 26 верасня ў школьным комплексе з удзелам былых настаўнікаў. Праз год прадбачваецца VIII З'езд выпускнікоў Бельскага белліцэя і працяг юбілейных святкаванняў у вялікай сям'і былых вучняў.**



# 70 гадоў
## Бельскаму белліцэю

У спартыўнай зале белліцэя сабраліся першакласнікі, якія спачатку мерапрыемства далі ўрачыстую школьную прысягу. Дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк прывітаў гасцей, называючы прозвішчы былых настаўнікаў і запрошаных асоб. Прыбылі бельскі староста Славамір Снарскі і яго намеснік Пётр Божка — адказныя за звышгімназічную асвету. Малітву ў пачатку ўрачыстасці ўзначалілі епіскап супрасльскі Грыгорый, які, будучы бельскім епіскапам, шчыльна супрацоўнічаў з белліцэем, епіскап драгічынскі Тадэвуш Пікус ды бельскія праваслаўныя і каталіцкі святары. На мерапрыемства прыбылі старшыні беларускіх арганізацый у Польшчы: Яўген Вапа — Беларускага саюза ў РП, Ян Сычэўскі — БГКТ, Дарафей Фіёнік — Музея малой айчыны ў Студзіводах, Ігар Лукашук — Звязу ў карысць адукацыі і промоцыі беларускай культуры «Шчыты», беларускія дыпламаты — надзвычайны і паўнамоцны пасол РБ у Польшчы Аляксандр Авяр'янаў і дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі ў Польшчы Эдуард Швайко. Прыехалі падляшскі ваявода Мацей Жыўна, самаўрадаўцы Бельшчыны, у тым ліку выконваючы абавязкі бургамістра Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі і войт Бельскай гміны Раіса Раецкая, якія з'яўляюцца выпускнікамі белліцэя. Сярод сабраных былі Рышард Пшчулкоўскі з Кураторыі асветы ў Беластоку, дырэктары школ, бельскіх устаноў культуры і іншыя сябры Бельскага белліцэя. З іх ліку дырэктар Андрэй Сцепанюк назваў, між іншым, былога дырэктара суседняй «тройкі» Васіля Ляшчынскага, зараз віцэ-старшыню Рады Бельскага павета і былога дырэктара Бельскага дома культуры Сяргея Лукашука, які некалькі дзясяткаў гадоў вёў у Бельскім белліцэі калектыў «Дзявочыя ноткі» і іншыя гурты.

Падляшскі ваявода Мацей Жыўна пахваліў арганізатараў святкавання, што распачалі мерапрыемства з урачыстай прысягі першакласнікаў. Іх падчас мерапрыемства было многа і гэта дае надзею становча глядзець на будучыню Бельскага белліцэя. Падчас урачыстасці быў зачытаны ліст ад мітрапаліта варшаўскага і ўсяе Польшчы Савы, напісаны на літаратурнай беларускай мове.

— Адзін сее, а другі жне. Засеянае 70 гадоў назад здаровае зерне дае сёння добры плён, — заявіў у лісце мітрапаліт Сава. Заклікаў ён вучняў захоўваць сваё веравызнанне, сваю беларускую мову, культуру і традыцыі і пажадаў Божага блаславенства на далейшую дзейнасць.

Епіскап супрасльскі Грыгорый успамінаў гады службы ў Бельску-Падляшскім і супрацоўніцтва з белліцэем. Успамінаў таксама папярэдняга дырэктара белліцэя Зінаіду Навіцкую і яе апошнія дні жыцця, калі наведваў спадарыню Зінаіду ў бальніцы. Бачыў яе моцную веру ў Бога і вялікі становўчы падыход да жыцця. Хаця ў Бельскім белліцэі вучыцца нямнога католікаў, на юбілейную ўрачыстасць прыбыў драгічынскі епіскап Тадэвуш Пікус, які звярнуў увагу на нацыянальную і культурную разнароднасць белліцэя. Надзвычайны і паўнамоцны пасол РБ у Польшчы Аляксандр Авяр'янаў, старшыня БГКТ Ян Сычэўскі, бельскі староста Славамір Снарскі, выконваючы абавязкі бургамістра Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі і іншыя госці павіншавалі настаўнікаў і вучняў з юбілеем. Звярнулі яны ўвагу на гісторыю Бельскага белліцэя і ўручылі дырэктару Андрэю Сцепанюку падарункі. Староста Славамір Снарскі і яго памочнікі ўручылі персанальныя ўзнагароды дырэктару і лепшым настаўнікам. Старшыня Беларускага саюза ў РП Яўген Вапа ўспамінаў супрацоўніцтва паміж моладдзю Гайнаўскага белліцэя, дзе ён вучыўся, а пасля працаваў настаўнікам гісторыі, і Бельскага белліцэя. Ліцэісты абедзвюх школ спатыкаліся падчас беларускіх рэйдаў і іншых мерапрыемстваў.

— Ідэя навучання беларускай мове нарадзілася на нашых землях яшчэ перад Першай сусветнай вайной, калі нашы продкі чыталі «Нашу Ніву» і іншыя беларускія выданні. Беларускія сяляне хацелі зямлі і асветы. Яраслаў Кастыцэвіч рэальна змагаўся за БНР, а пасля стварыў беларускую школу ў Бельску. Усе мы можам пашыраць беларускасць, гаварыць, пісаць і думаць па-беларуску, захоўваць беларускасць у глыбіні сэрца, душы, даражыць беларускай мовай, культурай і вывучаць сваю гісторыю, — выказваўся ў патрыятычным духу Яўген Вапа. Падарыў ён дырэктару Андрэю Сцепанюку беларускі нацыянальны герб «Пагоня», які папоўніць школьную калекцыю беларускіх нацыянальных сімвалаў.

Дырэктар Гайнаўскага белліцэя Яўген Сачко павіншаваў настаўнікаў бельскай школы з юбілеем і звярнуў увагу на станоўчыя выказванні выступаючых выпускнікоў белліцэя пра сваіх былых настаўнікаў. Пажадаў ён, каб цяперашнія педагогі дачакаліся так станоўчай ацэнкі ў будучыні, як цяперашнія пенсіянеры.

Першакласнікаў і гасцей з гісторыяй белліцэя пазнаёміў настаўнік гісторыі Уладзімір Вавульскі. Чатырохгадовая Дзяржаўная беларуская гімназія і двухгадовы Дзяржаўны беларускі ліцэй былі адкрыты ў верасні 1944 года ў будынку побач цяперашніх вуліц 3-га Мая і Касцюшкі. Першым дырэктарам школы быў Анатоль Тымінскі, які ў чэрвені 1946 года выехаў у Савецкі Саюз.

— Мы стараліся ўдакладніць месца пахавання нашага першага дырэктара або месца пражывання яго сям'і, але нам гэта не ўдалося, — заявіў Андрэй Сцепанюк.

На пасаду дырэктара школы 16 чэрвеня 1946 года быў прызначаны Яраслаў Кастыцэвіч, які па-за перапынкам, калі школа была закрытая, кіраваў ёю аж но да жніўня 1965 года. Аднак спачатку яму не пашанцавала, бо ўжо ў другой палове жніўня 1946 года распараджэннем Кураторыі Беластоцкай школьнай акругі беларускія гімназія і ліцэй былі ліквідаваны, а вучні пераведзены ў іншыя школы. Ліквідацыя тлумачылася масавым выездам беларусаў у пасляваенны час з Польшчы ў Савецкі Саюз, што было няпраўдай. Толькі пасля трохгадовага перапынку распараджэннем міністра асветы створана была Дзяржаўная агульнаадукацыйная школа падставовай і ліцэйскай ступені з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім.

— У верасні 1949 года дырэктарам школы зноў стаў Яраслаў Кастыцэвіч, галоўны яе арганізатар, цудоўны педагог і выхавацель, якога работа паўсюдна ўспрымалася з прызнаннем і пашанай, — лічаць сённяшнія настаўнікі Бельскага белліцэя

Школа знаходзілася тады ў двухпавярховым будынку на стыку вуліц Міцкевіча і Відаўскай. Намаганнем дырэктара, настаўнікаў і бацькоў у цэнтры горада, у гарадскім парку быў узведзены новы школьны будынак. У 1961 годзе пачала ў ім працаваць Падставовая школа і Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання. У 1965 годзе адбыўся падзел школы на Агульнаадукацыйны ліцэй і Падставовую школу № 3, славутую бельскую «тройку». У гэтым самым годзе на пенсію адышоў Яраслаў Кастыцэвіч, а дырэктарам белліцэя стаў Мікола Гайдук, беларускі пісьменнік, гісторык, аўтар падручнікаў па беларускай мове, журналіст «Нівы», які кіраваў працай белліцэя да 1971 года. У 1969 годзе школе было прысвоенае імя Браніслава Тарашкевіча, беларускага дзеяча, палітыка і аўтара граматыкі беларускай мовы. У 1971-1991 гадах працай белліцэя кіраваў Аляксей Карпюк, а ў 1991-2004 гадах дырэктарам школы была Зінаіда Навіцкая. З 2004 года белліцэем кіруе Андрэй Сцепанюк, былы настаўнік беларускай мовы ў гэтай школе і бургамістр Бельска-Падляшскага. Паводле падлікаў, вучобу ў Бельскім белліцэі закончыла 5512 выпускнікоў.

Дырэктар Андрэй Сцепанюк падчас урачыстасці паведаміў пра віншавальныя лісты, якія паступілі ад устаноў і арганізацый з Польшчы і Рэспублікі Беларусь. У музычна-слоўнай мастацкай частцы ўрачыстасці публіку захапілі белліцэйскія калектывы «Спадчына» і «Вянок», якія дзейнічаюць пад кіраўніцтвам Іаанны Хількевіч. Займальна запрэзентавалі яны апрацаваныя беларускія народныя песні і эстрадныя творы. Паміж выступленнямі калектываў белліцэісты запрэзентаваліся з дэкламацыяй, якую падрыхтавалі пад наглядам настаўніцы беларускай мовы Яўгеніі Таранты.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА





# Транспарт і хамства

Кожны, каму даводзіцца карыстацца паслугамі розных відаў транспарту, мае сваё ўяўленне пра зручнасць і выгоднасць таго ці іншага віду перамяшчэння ў прасторы. Аўтамабіль ужо даўно не раскоша, а сродак перамяшчэння. Правы кіроўцы зараз маюць і жук, і жаба. Асабіста я таксама маю такія правы, толькі не езджу за рулём. Няпроста адпавядаць усім правілам і этыцы на дарозе. Таму не вазьмуся ацэньваць тут іншых. А найбольш абурае хамства тых, хто ўключыўшы на ўсю моц гук і расчыніўшы напоўніцу форткі машынаў, транслюе сваю музыку для ўсіх, хто праходзіць ці праязджае міма. Не ведаю, ці рэагуюць на гэта дарожныя аўтаінспектары, але бачыць, каб каго спынялі за такое, не даводзілася. Хоць на маю думку, такія публічныя „канцэрты"-трансляцыі наўпрост парушаюць грамадскі парадак і спакой грамадзян.

Зусім іншая рэч аўтобус. Такі від грамадскага транспарту — гэта асобны мікрасвет са сваімі парадкамі і стасункамі. Буду гаварыць тут у параўнальнай характарыстыцы найбольш мне блізкіх гарадоў — Гродна і Беластока. У сталіцы Падляшша, на маю думку, грамадскі транспарт арганізаваны проста ўзорна, можна сказаць найлепей у Польшчы. Да ўсяго існуе зручная, і зусім недарагая сістэма пазычальняў ровараў. У Гродне таксама апошнім часам з'явіліся першыя веласіпедныя дарожкі, але ўзяць на нейкі час ровар няма дзе. Адчынены нібыта нейкі цэнтр з адмысловай пляцоўкай, але пакуль аніводнага ровара я там не бачыў. Што датычыць кіроўцаў гарадскіх аўтобусаў, то ніколі не заўважаў з іхнага боку нейкага хамства. У горадзе над Нёманам звычайна кіроўцы чакаюць пасажыраў, якія бягуць наўздагон аўтобуса, а часцякам і дадаткова адчыняць ужо замкнуты ўваход. А вось гродзенскія чыноўнікі, якія займаюцца транспартам, далёкія ад гарадскога люду. На многіх прыпынках, прычым канцовых ці блізкіх ад іх, аўтобусы выязджаюць амаль у адзін час, а потым створаны даўжэзныя перапынкі, потым зноў чарада аўтобусаў і зноў пустэча. Пры рэканструкцыі вуліц недарэчна ліквідаваны некаторыя прыпынкі і газетныя шапікі. Вельмі кепска арганізаваны транспарт з аўтавакзала. З Беластокам нават не параўноўваю, але гродзенскім начальнікам варта ўзяць прыклад хоць бы з брэсцкіх ці пінскіх, у якіх, як мне падаецца, справа гарадской камунікацыі наладжана куды больш прафесійна і дбайна. Выратоўваюць у Гродне часам маршруткі, але іх намнога меней, чым, прыкладам, у гарадах Украіны, а ўвечары яны часта перапоўнены.

Давялося мне, запазніўшыся ў адным месцы Гродна, дабірацца позна ўвечары дахаты на таксі. Заказаць таксоўку часам праблематычна — таксіст першай фірмы, які прыехаў па заказе, не захацеў крыху пачакаць нас з сябрам. Проста ўзяў і з'ехаў. Такое вось савецкае хамства, калі кіроўца лічыць, што гэта ты яму абавязаны яго ласкай. Дыспетчарка іншай фірмы запатрабавала ў мяне паведаміць, куды менавіта я паеду. А калі я сказаў, што не ведаю, у рэзкай форме стала павучаць мяне манерам размовы. Давялося выклікаць таксоўку трэцяй фірмы. На гэты раз даехаць удалося, таксіст быў ветлівы, праўда, каштаваў праезд ажно 50 тысяч беларускіх рублёў. У пераразліку гэта 15 злотых. Для параўнання скажу, што ў Беластоку аналагічная паездка абыдзецца ў 7-8 злотых. Так што, калі хто на Падляшшы мяркуе, што тут сацыяльны рай — шчыра запрашаем папазнаёміцца з беларускімі коштамі і рэаліямі.

Пісаўся гэты артыкул якраз у міжгароднім аўтобусе. Ехаў я з Гродна ў Ашмяны — ладны кавалак дарогі. А ў Ашмянах праз 40 хвілін меўся перасесці на маршрутны аўтобус у Крэва. Іншага варыянту камунікацыі папросту не было. Але не туды тое. Ужо праз гадзіну язды дабіты стары аўтобус зламаўся і даехаў толькі да Шчучына. У дарозе ўсялякае, канешне, здараецца. Але нават у савецкі час рэзервовы аўтобус выдзеліла б мясцовая аўтастанцыя. А цяпер, нягледзячы на жорсткую дзяржаўную цэнтралізацыю, нешта там у іх транспартнай сістэме разладжанае. Давялося паўтары гадзіны чакаць заменнага аўтобуса з Гродна. Нікуды я ўжо не паспяваў, таму ў Ашмяны не паехаў, а выйшаў на прыпынку ў Гальшанах. Але гэта ўжо зусім іншая гісторыя...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Павялічванне-змяншанне

Лагічна, што калі дзесьці траціцца, прыкладна настолькі ж у іншым месцы прыбывае. Гэты закон ставіцца ў першую чаргу да зачыненых сістэм. І наша Зямля — такая сістэма. Напрыклад, калі Цэнтральная Афрыка ў адсутнасць мусонных дажджоў павольна муміфікуецца, Еўропа змагаецца з атмасфернай вадзянкай. Узбярэжжы Англіі і Францыі затапляюць марскія хвалі кожны год, а Германію,Чэхію і Польшчу падтапляюць разлівы рэк. Калі Захад, Еўропу турбуе дэпапуляцыя, Усход, Кітай, Індыя становяцца раздзьмутымі чалавечым лішкам. Тая ж логіка, хоць і не ў глабальнай перспектыве, абавязвае таксама ў выпадках меншай важнасці. Актуальнае перамір'е паміж Украінай і... сепаратыстамі невыразнага пахаджэння, прывяло да адводу з рэгіёна Данбаса і Луганска рэгулярных войскаў расійскай арміі. На тэрыторыі ўкраінскай дзяржавы паменшаў лік танкаў, ракет, гармат і жывых салдат. Паменшала на ўкраінскіх палях і паспешна закапаных трупаў з расійскімі пашпартамі. Паводле даных украінскага Міністэрства нацыянальнай абароны ў канфлікце на Усходняй Украіне былі забіты каля 2 тыс. салдат, да якіх руская дзяржава афіцыйна не прызнаецца. Спачылі яны як нічые... на чужой тэрыторыі. Але дзе тэхналагічныя інавацыі нашых братоў? Вось яны вынайшлі мабільныя крэматоры, усталяваныя на добра вядомых сваёй трываласцю грузавіках маркі „Вольва". Іх даўгавечнасць важная, вайну з Еўропай і светам Расія толькі пачала. Таксама замест прыкрай эксгумацыі і няёмкай экспедыцыі цел, употай іх спалілі і паслалі на радзіму ў пакетах. Эх, расійскія маці і бацькі, сцеражыцеся, бо паштальён стукае ў дзверы, кажуць, заўсёды два разы. А можа з'явіцца два паштальёны — адзін са спачувальным лістом ад Пуціна, другі з пакетам, напоўненым прахам. Таму што дзякуючы зніжэнню непажаданых пахаванняў на Украіне, у Расіі павялічыўся лік паштальёнаў.

Логіка зніжэння-прыбывання жалезная. Калі паштальёнаў прыбывае ў Расіі, у Польшчы іх робіцца менш. У рапарце сервіса CareerCast наконт 10 самых знікаючых прафесій вынікае, што занятасць работнікаў забяспечваючых паштовыя пасылкі ўпадзе да 2022 г. аж на 28 адсоткаў. Традыцыйныя лісты выцясняе інтэрнэт, і пасылкі можна падабраць ужо з пачкаматаў. Аналагічна пад пагрозай звальнення знаходзяцца людзі, якія правяраюць лічыльнікі электраэнергіі, водазабеспячэння і газу (зніжэнне на 19 адсоткаў). Гэта вынік распаўсюджання радыёметраў, праверка якіх адбываецца аўтаматычна. Паменшае лесарубаў і журналістаў. Але прыбудзе беспрацоўных і абяздоленых. А тыя, верагодна, уцешацца інфармацыяй аб тым, што будзе змяншацца занятасць асоб, адказных за збор плацяжоў — падаткаў і іншых збораў.

Логіка ёсць логіка. Толькі што ў выпадку планеты людзей яна часта выходзіць з ладу. Возьмем, для прыкладу, беднасць і багацце. Мільярдэраў у свеце прыбывае (у гэтым годзе ўступілі ў шэрагі супербагацеяў чарговыя 155 чалавек). Беручы справу лагічна, калі стала больш багатых, павінна паменшаць бяды. А яна не зменшылася. Хутчэй за ўсё, больш яе. У цяперашні час жыве сярод нас 2325 мультымільярдэраў, каля 7 працэнтаў больш, чым год таму. У адрозненне ад гэтага, сусветную папуляцыю людзей, надзвычай пакутуючых ад недаядання, літаральна гібеючых на парозе біялагічнай смерці, ацэньваецца прыкладна на 20%. Злёгку лічачы, хоць і з цяжкім сэрцам (наколькі хто мае сэрца), гэта адпавядае колькасці грамадзян Кітайскай Народнай Рэспублікі. Гэта прыкладна адзін мільярд трыста мільёнаў чалавек. На жаль, галодных прыбывае. Што яшчэ горш, гэтая тэндэнцыя расце. Узрастаючы лік мультымільярдэраў можа ініцыяваць працэс глабальнай канібалізацыі. Цалкам верагодна, што калі ён перавысіць рысу 3 тысяч, Зямля будзе ўжо цалкам зачышчана ад лясоў, субтрапічных і палярных, моры пазбаўленыя рыбы ў выніку рыбапрамысловай дзейнасці, лугі вышчыпаныя траваеднымі да апошняй травінкі, а даведзены да адчаю натоўп чалавекабеднякоў пачне есці адзін аднаго. Рэзка павялічыцца папуляцыя гіен, грыфаў, ваўкоў, пацукоў і... людажэраў. У фінале, усе іншыя віды, што застануцца пры жыцці, кінуцца адзін аднаму да глотак. Але не буду прарочыць канца чалавечага свету. Не паменшае яго, у рэшце рэшт. І калі так, то з другога боку, у рэшце рэшт, дзесьці яго стане больш. Можа, лепшага свету?

**Міраслаў ГРЫКА**

Вачыма еўрапейца



# Сесія, якой не было

Здавалася, справа дзялення на выбарчыя акругі на Падляшшы перад мясцовымі выбарамі, прызначанымі на 16 лістапада, ужо завершана. У адпаведнасці з воляй маршалка Яраслава Дважанскага (ГП) 4 жніўня радныя вырашылі, што ў нашым рэгіёне будуць чатыры акругі, у тым ліку акруга № 4 — «меншасная», якая ўключае ў сябе Беластоцкі, Бельскі, Гайнаўскі, Сямятыцкі і Высока-Мазавецкі паветы. У галасаванні на трыццаць радных прынялі ўдзел 25, а супраць быў цэлы апазіцыйны клуб (з 11 радных) Права і справядлівасці, якому не на руку была чацвёртая акруга, паколькі Высока-Мазавецкі павет вядомы сваёй выбарчай сімпатыяй да гэтай партыі, а апошнія хутчэй поўнасцю да лева-ліберальных, так што пры такім падзеле ПіС мае меншыя шанцы, каб змагацца за месцы (у гэтай акрузе можна ўзяць дзевяць мандатаў). Радныя гэтага клуба выказаліся за існуючы падзел на пяць акруг, у дасюлешняй геаграфічнай канфігурацыі. Як мы пісалі пасля сесіі 6 жніўня, аб новым падзеле вырашыў адзін голас. Як тады сказаў Марэк Рыбнік, дырэктар дэлегатуры выбарчага бюро ў Беластоку, радныя вырашылі аб акругах у адпаведнасці з законам, і, перш за ўсё, з новым Выбарчым кодэксам, які патрабуе такога дзялення на акругі, каб аб'яднаныя паветы «не парушалі сацыяльных сувязей, звязваючых выбаршчыкаў, якія належаць да нацыянальных або этнічных меншасцей і якія пражываюць на тэрыторыі аб'яднаных паветаў».

Тым часам, 23 верасня старшыня сейміка Багдан Дыюк у нечарговым і незвычайным рэжыме паўторна склікаў сесію ў справе раянавання. З запытам на нечарговую сесію выступіў клуб ПіС. Аднак, на момант яе пачатку ў зале было ўсяго восем радных: шэсць з клуба выступаючага за сесію, старшыня сейміка і яго віцэ-старшыня Ян Сычэўскі. З неафіцыйнай інфармацыі было ўжо вядома, што радныя ад іншых клубаў не з'явяцца на пасяджэнні. Пасля абвяшчэння формулы аб адсутнасці кворуму (быў бы пры прысутнасці пятнаццаці радных), старшыня зачыніў сесію, якая працягвалася толькі каля дзвюх хвілін. Ужо пасля яе закрыцця ў залу зайшоў яшчэ радны ПіС, намеснік старшыні сейміка з гэтага клуба Ян Хайноўскі, здзіўлены такім хуткім ходам падзей. Журналістам засталося толькі спытаць шэфа клуба радных ПіС Марка Камароўскага пра мэту склікання нечарговай сесіі:

— Праект новага раянавання, на наш погляд, не адлюстроўвае сітуацыі ў рэгіёне. Практычна ва ўсіх паветах была негатыўная думка аб ім (з тых, хто выказаў меркаванне, толькі Гайнаўскі павет падтрымаў прапанову маршалка — М. Х.). Аднак маршалак падтрымаў сваю прапанову і кіруючая кааліцыя прыняла гэтую прапанову. Таму мы звярнуліся да падляшскага ваяводы праверыць яе адпаведнасць Выбарчаму кодэксу, які вызначае сітуацыі, у якіх можна змяніць выбарчыя акругі. На наш погляд, такая сітуацыя не ўзнікла на Падляшшы. Ваявода адмовіў нам у адмене рэзалюцыі, але сказаў, што асобы, якія не згодныя з гэтым рашэннем (новым дзяленнем — М. Х.) могуць заклікаць сеймік, каб выдаліў парушэнне. І спрабавалі мы гэта зрабіць на вераснёўскай сесіі, якая адбылася ў Ломжы. Сеймік тады не ўлічыў нашу просьбу і ў парадак дня не быў уведзены гэты пункт. Таму мы склікалі экстраннае пасяджэнне. Адсутнасць кворуму — таксама рашэнне. Гэта абазначае, што сеймік не хоча заняць пазіцыю. Не будзе больш, такім чынам, да выбараў магчымасці гэта абмеркаваць. Гэтае рашэнне можна яшчэ абскардзіць у Акруговы адміністрацыйны суд, але справа адбылася б пасля выбараў і не акажа практычна ніякага ўплыву, магчыма адзінае рашэнне на будучыню. Перад выбарамі будзе яшчэ адна сесія — 16 кастрычніка ў Сувалках, але я не думаю, каб гэты пункт быў уключаны ў парадак дня.

Карацей, ПіС хацела вярнуцца да папярэдняга раянавання, сцвярджаючы, што ніякія сувязі, згаданыя ў Выбарчым кодэксе, не звязваюць Высока-Мазавецкага павета з астатнімі. Ва ўсякім выпадку, такая ж засцярога прагучала ў станоўчым меркаванні Гайнаўскага павета. На сесіі-не сесіі з'явіўся гайнаўскі староста Уладзімір Пятрочук. На пытанне, чаму, адказаў: «Афармляю ў Беластоку іншыя справы, і я прыйшоў з цікаўнасці, каб пачуць той і іншы бок. Аказалася, што гэта немагчыма». Я таксама зайшоў з цікаўнасці, таму што ўсё было ясна загадзя. Аб чым і паведамляю.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Нелаяльнасць

**Большасцю галасоў, уключаючы галасы радных клуба Грамадзянскай плаформы, на апошняй сесіі Гарадской рады Беластока была адхілена прапанова трох радных Форуму меншасцей Падляшша (ФМП), які з'яўляецца часткай клуба ГП, каб зняць з парадку дня праект пастановы аб прысваенні кругавой дарозе ў мікрараёне Выгода імя Żołnierzy Wyklętych (Выклятых жаўнераў). Праект падаў апазіцыйны клуб Права і справядлівасці.**



Яраслаў Вэрдоні і Роберт Тышкевіч падпісалі пагаднене аб супольным выбарчым старце

— Гэты пункт мусіў быць уведзены, таму такі ёсць рэгламент пасяджэння рады і ў адпаведнасці з ім праект пастановы быў працягнуты. Праект атрымыў подпіс прэзідэнта і юрысконсультаў. Нашы радныя, падобна як у іншых пытаннях датычных светапогляду, прагаласавалі па сваім сумленні, — пераконваў «Ніву» старшыня клуба ГП Збігнеў Нікітаровіч. Ён сам — як сам сказаў — свядома не галасаваў над зняццем праекта пастановы з парадку дня, ані пасля над прыняццем праекта, паколькі «ПіС не прыняло дапаўнення абгрунтавання праекта пастановы, прапанаванага ФМП, і палітызаваў усю праблему Праклятых жаўнераў».

Яраслаў Вэрдоні, старшыня ФМП у Беластоку, аб галасаванні па прапанове радных Форуму сказаў наступнае: «Паводзіны ГП у адносінах да нас — нелаяльныя».

22 верасня за зняццем гэтага пункту было восем радных (на 28 у Гарадской радзе). Па-за самаўрадаўцамі з ФМП на так прагаласавалі Марэк Хайноўскі і Галіна Васяк з клуба ГП, Януш Кохан і Міхал Карповіч з СЛД, Веслаў Кабылінскі, які цяпер не належыць да ніякага клуба, раней СЛД. Устрымаліся ад галасавання чатырох радных: трох з ГП, у тым ліку старшыня ГР Уладзімеж Кусак ды прадстаўляючы ў Радзе праваслаўнае асяроддзе Мікалай Мірановіч (без клуба, раней СЛД). Мы дайшлі да тэксту эсэмэскі, разасланай перад сесіяй Мірановічам да некаторых радных, у якім ён патлумачыў сваё рашэнне. Высновы былі ясныя: ФМП не можа разлічваць на яго падтрымку, таму што не ўключае яго ў спіс кандыдатаў на лістападаўскіх выбарах (падобна як перад чатырма гадамі, у адпаведнасці з лістом аб намерах, падпісаным нядаўна абодвума бакамі, кандыдаты ФМП будуць у спісах ГП на другіх пазіцыях), чаго — тут цытата — форум будзе шкадаваць і радны лічыць гэты факт «вялікай бестактнасцю». У канцы эсэмэскі ён заявіў: **«Bury mordował w Bielsku Podlaskim, a ja jestem radnym miasta Białystok»**.

## Будучыня адрыгаецца

Славамір Назарук, які ад імя ФМП падаў заяву аб зняцці з парадку дня пункта, запэўніў нас, што на пасяджэнні клуба да пачатку сесіі трыма раднымі ад меншасцей прадстаўлена была прапанова аб увядзенні дысцыпліны падчас галасавання:

— Не ўсе члены клуба тады ўдзельнічалі у ім, але дысцыпліна была прагаласавана. Перад самай сесіяй высветлілася, што некаторыя з іх не будуць падтрымліваць нашу прапанову. Мы галасавалі зноў і дысцыпліна прапала. Дасюль не заўсёды на пасяджэнні былі ўсе члены клуба, і дысцыпліну галасавалі, і яна абавязвала.

Яраслаў Вэрдоні, у якога мы спыталіся як ацаняе стаўленне кааліцыянта, сказаў:

— Радныя ГП над зняццем праекта гэтай пастановы прагаласавалі па-рознаму, але ўсё было пад кантролем, каб адхіліць нашу прапанову. Гэтага не можа быць. Гэта паўплывае на будучыню.

— Што далей з кааліцыйным пагадненнем? — распыталі мы:

— З ГП падпісалі мы ліст аб намерах толькі таму, што ідзем разам да выбараў. У нас няма нейкай дэкларацыі, што будзем працягваць дзейнічаць разам, асабліва ў пісьмовай форме. Калі мы зробім добры вынік, будзем у Гарадской радзе незалежнымі.

Славамір Назарук дадаў:

— Пытанне Праклятых жаўнераў не з'яўляецца справай светапогляду. Мы не хочам, каб гэтае пытанне стала прадметам палітычных антаганізмаў і хацелі галасаванне над гэтым праектам толькі перанесці пасля выбараў. Магчыма, на радных аказаў уплыў у ходзе дыскусіі прэсінг радных ПіС. Да выбараў ідзем разам з ГП. Не існуе ў цяперашні час іншай альтэрнатывы, выбарчая кампанія пачалася. Мы не можам парваць кааліцыю з ГП, таму што застанецца нам толькі крычаць, а адсутныя не маюць рацыі. Мусім зрабіць усё, каб у беласточкім самаўрадзе, але і ў Падляшскім сейміку нашых людзей было як найбольш. Нам траім у ГР, аднак, гэта адрыгнулася. Такія сітуацыі не могуць паўтарацца.

## Прычынай — «Буры»

Сваю пазіцыю наконт праекта пастановы ПіС і заяву аб зняцці праекта з парадку дня радныя ФМП абвясцілі некалькі дзён да сесіі, на спецыяльна скліканай прэс-канферэнцыі.

Радны Форуму Адам Мусюк сказаў тады, спасылаючыся на асобу Рамуальда Райса «Бурага», аднаго з «праклятых салдат», які стаў прычынай заявы аб зняцці з парадку дня праекта пастановы:

— Гэта асоба, якая мае на руках кроў нявінных людзей, у тым ліку жанчын і дзяцей.

Радны Марыюш Громко, старшыня клуба Права і справядлівасці ў ГР, тады прапанову ФМП пракаментаваў наступным чынам:

— Я лічу, што гэта частка выбарчай кампаніі. Па ўсёй краіне Праклятыя жаўнеры ўжо сталі патронамі дзясяткаў вуліц, плошчаў і сквераў. У сталіцы рэгіёна, дзе падполле было самым актыўным і пацярпела найбольшыя страты — не.

У гэтай справе пасля прэс-канферэнцыі радных ФМП выказалася Барбара Баярын-Казбэрук, дырэктарка Інстытута нацыянальнай памяці ў Беластоку:

— Байкатаванне такой ініцыятывы, асабліва ў гэтыя дні, калі ў следчым арышце ў Беластоку мы дастаем з-пад разваліны псярняў, свінушнікаў парэшткі Праклятых салдат — ганебнае.

У абгрунтаванні праекта пастановы ПіС можна было прачытаць, што з прапановай увекавечыць у грамадскай прасторы Беластока Праклятых жаўнераў (на кругавой развязцы на стыку вуліц Казіміра Вялікага, генерала Нікадэма Суліка і Пястоўскай) у чэрвені 2012 года выступіла неафіцыйная група маладых людзей. Затым прапанову падтрымалі многія беласточкія філіялы ветэранскіх арганізацый. Сваю падтрымку таксама аказала некалькі соцень жыхароў Беластока, падпісваючы петыцыю. Прыгадалі ў ёй, што з 2011 года, па ініцыятыве прэзідэнта Леха Качыньскага, 1 сакавіка было аб'яўлена нацыянальныма святам, прысвечаным воінам збройнага антыкамуністычнага падполля, і з'яўляецца асабліва сімвалічным днём для салдат антыкамуністычнага падполля, таму што ў гэты дзень у 1951 г. быў выкананы смяротны прысуд над кіраўніцтвам IV Камендатуры Згуртавання «Свабода і Незалежнасць» (**WIN**). У абгрунтаванні згадваецца некалькі Праклятых салдат, дзейнічаючых на Беласточчыне: Уладзіслаў Лінярскі, Геронім Пятроўскі, Аляксандр Рыбнік, Данута Седзікуўна, Зыгмунт Шындзеляж. Аднак аніводнага слова ў ім не не было аб «Бурым».

## Моцныя словы

На працягу двух з паловай гадзін абмяркавання голасу не ўзялі радныя Саюза левых дэмактараў (СЛД). Палітызаваная дыскусія вялася ў асноўным паміж ГП-ФМП і ПіС. Марцін Шчудла (без клуба, да нядаўна клуб ПіС, па-за радай член выбарчага камітэта Тадэвуша Трускаляскага):

— Калі гэтая тэма паводле некаторых з'яўляецца спрэчнай, дык тэрмін заўсёды будзе дрэнны. Няма неабходнасці адкладваць. Праект пастановы па гэтым пытанні быў падрыхтаваны ў студзені, але тады ніхто з ПіС не хацеў яго падпісаць і не быў ён прадстаўлены. Ужо тады справа была палітызавана.

Славамір Назарук:

— Калі гэты праект столькі чакаў, я думаю, што можна яшчэ пачакаць два-тры месяцы.

Рафал Рудніцкі (без клуба, да нядаўняга часу ў ПіС, па-за радай член выбарчага камітэта Тадэвуша Трускаляскага):

— Словы ФМП маюць характар калектыўнай адказнасці. Разважаючы так, у Беластоку не павінна быць вуліцы Арміі Краёвай ці Войска Польскага. Калі клуб ГП падтрымае зняцце гэтага пункта, дык пакажа, што пазіцыянуе сябе на лева-ліберальным баку і не мае нічога агульнага з камітэтам Тадэвуша Трускаляскага (ГП падтрымлівае цяперашняга прэзідэнта горада ў восеньскіх выбарах на гэтую пасаду — М. Х.).

Марыюш Громко:

— Ініцыятыву ФМП я лічу вельмі шкоднай. Гэта супярэчыць польскаму дзяржаўнаму інтарэсу. Прыгадваю, што свята Праклятых жаўнераў устаноўлена Сеймам. Ваша пазіцыя трохі антыпольская, насуперак інтарэсам Сейма РП!

Тамаш Мадрас (ПіС):

— Гэта злая воля з вашага боку.

Веслаў Кабылінскі (без клуба, раней у СЛД):

— Я баюся, што гэты праект будзе расаднікам жорсткай выбарчай бітвы ў Беластоку і на ўсходняй частцы ваяводства, а загубяцца мірскія, але важныя для мясцовай супольнасці, справы.

## Дастаць іх з перыферы

У ходзе дыскусіі радныя ўспаміналі аб праваслаўных салдатах, якія служылі ў атрадах Праклятых жаўнераў, у тым ліку «Бурага». Марыюш Громко:

— Гэты праект ніякім чынам не накіраваны супраць праваслаўнай веры.

Голас узяў дэпутат ад ПіС Дарыюш Пянткоўскі (падобна як радны Нікітаровіч, гісторык па адукацыі). Гаварыў, што Праклятыя жаўнеры з'яўляюцца «нешматлікай групай людзей, якія, рызыкуючы жыццём сваім і сваіх сем'яў, спрабавалі змагацца за незалежную Польшчу, насуперак ялцінскай сістэме, нягледзячы на тое, што Польшча была здраджана, насуперак таму, што на савецкіх штыках была прынесена ў Польшчу камуністычная ўлада, насуперак таму, што частка асоб іншых канфесій чым каталіцкая стала на баку гэтай сістэмы і служыла ў злачынных структурах, якія навязвалі палякам злачынную камуністычную сістэму, якая на працягу дзесяцігоддзяў зняволіла Польшчу»:

— На працягу доўгага часу гэтых людзей называлі проста бандытамі. Калі гэта добры час, каб гаварыць пра герояў? Гэтыя людзі былі на працягу дзясяткаў гадоў на абочыне гісторыі, польскага грамадства. Час, каб дастаць іх з гэтай перыферыі.

У сваю чаргу Тадэвуш Гасеўскі, які на фейсбуку стварыў старонку «Так для кругавой развязкі імя Праклятых жаўнераў у Беластоку» падкрэсліў, што ўсе намаганні па ўшанаванні памяці Праклятых жаўнераў вядуцца ў сталіцы Падляшскага ваяводства больш за два гады:

— Я прашу, не здымайце гэтага пункта і прагаласуйце за пастанову для ветэранаў, якіх лік з тыдня на тыдзень меншае. Давайце не будзем з гэтага рабіць палітычнага пытання.

## Папраўкі да пратакола

Славамір Назарук:

— Ніхто з ФМП не супраць ідэі і вызначэння Праклятыя жаўнеры. Мы разумеем, за што яны змагаліся і што дзякуючы ім мы жывем у свабоднай краіне. Не можам, аднак, быць згоднымі, каб чалавек, які мае на руках кроў нявінных людзей, мірнага насельніцтва: дзяцей, жанчын быў ахоплены гэтым паняццем (...). Таксама ў мяне ёсць сябры і сваякі сярод праваслаўных людзей, якія былі дэпартаваныя ў Казахстан, у Расію ў сувязі з тым, што не падпісаліся пад той сістэмай, якая была навязана. Хто пабудаваў той лад у цэнтральнай частцы Польшчы, дзе не было ані беларусаў, ані ўкраінцаў і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей?

Радны Себастыян Путра (ПіС):

— Можа, прымем назву Праклятых жаўнераў без «Бурага»? Няма толькі чорных і белых персанажаў. Але мы не можам забываць, што Праклятыя жаўнеры прысвяцілі сваё жыццё і зрабілі для нас вельмі многа.

Радныя ФМП спасылаліся на дакументы расследавання ІНП, якія даказваюць злачынную дзейнасць «Бурага». Некаторыя радныя згадвалі сямейныя гісторыі, напрыклад Сцяпан Нікіцюк з ФМП, які расказаў пра спаленне вёскі Патока, суседняй з вёскай Каўпакі, адкуль родам яго сям'я.

Калі радныя ФМП канчаткова падчас абмеркавання пераканаліся, што іх прапанова не пройдзе, паведамілі аб дапісцы-папраўцы да абгрунтавання заявы Права і справядлівасці: «Аднач асова Гарадская рада Беластока адзначае, што гэтая пастанова не падтрымлівае злачынній дзейнасці, учыненай часткай збройнага падполля, такіх як забойствы фурманоў і пацыфікацыя вёсак з прыкметай генацыду ў студзені і лютым 1946 года ў паўднёва-ўсходняй Беласточчыне атрадам Рамуальда Райса пс. „Буры"».

Збігнеў Нікітаровіч заклікаў... (!) радных ПіС, каб далучылі гэты тэкст да абгрунтавання, на што тыя канчаткова не згадзіліся з гэтай версіяй. Запранавалі папраўку-прыпіску ў версіі значна скарочанай: «Адначасова ГР Беластока адзначае, што гэтая пастанова не падтрымлівае злачынных дзеянняў, учыненых часткай збройнага падполля».

Славамір Назарук, размаўляючы з намі, сказаў:

— Наша версія папраўкі апынецца на агульнадаступным пратаколе з сесіі. Тут справа не ў накале эмоцый, але ў праўдзе, пра тое каб гаварыць, што такія факты былі і неабходна над імі схіліцца.

Канчаткова супраць пастанове аб прысваенні кругавой развязкі імя Праклятых жаўнераў выказаліся чатыры радныя: трох з ФМП і Міхал Карповіч. Устрымаліся ад голасу чатырох: Веслаў Кабылінскі, Януш Кохан (СЛД), Мікалай Мірановіч (так сама галасаваў за зняцце праекта пастановы з парадку дня) і Галіна Васяк (ГП). Не галасавалі Збігнеў Нікітаровіч і Марэк Хайноўскі (ГП). Астатнія радныя, то-бок, васямнаццаць, аддалі свой голас «за».

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**



# Усходні гаспадарчы кангрэс (2)

У ходзе дыскусіі пра „Малы памежны рух"

**У рамках першага Усходняга гаспадарчага кангрэса ў Беластоку адбылося трыццаць публічных дыскусій. Сярод тэм апынуліся тыя, што датычаць усходняй мяжы і малога памежнага руху. «Зялёныя» памежныя калідоры для руху парожніх грузавых аўтамабіляў, электроннае браніраванне, сумесны кантроль розных службаў, прапанова «аднаго акенца» для надзейных фірм перапраўляючых тавары, абмен інфармацыяй у рэжыме рэальнага часу мытнымі службамі — гэта толькі некаторыя з існуючых элементаў сістэмы памежнага кантролю ў розных краінах нашага рэгіёна.**

Аб гэтых пытаннях было сказана ў ходзе дэбатаў на тэму «Сучасная мяжа — падтрымка для гандлёвага абмену з Усходам». Можна было даведацца, што ў цяперашні час на ўсходняй мяжы Польшчы з трыма суседзямі, якія не ўваходзяць у ЕС, пасекундна адпраўляецца 7 грузавікоў. З 2008 года колькасць перапраўленых аўтафур павялічылася амаль напалову. На думку ўдзельнікаў дыскусіі, памежны шлагбаўм не павінен перашкаджаць, толькі паляпшаць канкурэнтаздольныя ўмовы бізнесу. Перш за ўсё трэба чакаць далейшай высокай дынамікі тавараабмену так з краінамі з-за ўсходняй мяжы Польшчы, як і транзітных перавозак у абодвух напрамках праз Польшчу. Цяперашняя адмоўная тэндэнцыя ў гандлі з Расіяй, верагодна, у хуткім часе адвернецца, пасля нармалізацыі палітычнай сітуацыі паміж Украінай і Расіяй. Пераконвалі, што нельга будаваць новыя пагранпераходы на ўсходніх польскіх межах без будаўніцтва аўтамабільных дарог і чыгуначных пуцей, без будаўніцтва адпаведнай інфраструктуры, напрыклад, тэрміналаў, паркоvак і г.д.

Па словах віцэ-міністра фінансаў і кіраўніка Мытнай службы Яцка Капіцы, краіны нашага рэгіёна павінны імкнуцца да выпрацоўкі адзінай мадэлі пагранічнага кантролю. Некаторыя элементы могуць быць рэалізаваны даволі хутка, напрыклад, утварэнне некалькіх палос на мяжы, увядзенне падобных лімітаў ліку памежнікаў і колькасці кантроляў на кожнага з іх:

— Аднак у пошуках аптымальнай мадэлі варта таксама ўлічваць маштаб руху на канкрэтных пагранпераходах ці спецыфічныя ўмовы. Напрыклад, у Баброўніках ёсць мост, па якім можа праехаць у адным кірунку толькі адзін грузавік, што выразна абмяжоўвае хуткасць пагранкантролю.

Па словах кіраўніка Дзяржаўнай мытнай службы Украіны Анатоля Макаранкі вялікім вопытам была арганізацыя ў Польшчы і Украіне чэмпіянату Еўропы па футболе ў 2012 годзе:

— Ужо тады мы ўвялі шмат элементаў, каб спрасціць афармленне, асабліва людзей, стварылі сумесны каардынацыйны цэнтр, так што справіліся з патраеннем памежнага руху на працягу двух месяцаў, але і з выяўленнем 130 выпадкаў кантрабанды наркотыкаў. Лепшы вопыт мы выкарыстоўваем, напрыклад на пагранпераходзе ў Дарагуску, і новым імпульсам з'яўляецца факт падпісання Украінай (дзень да Кангрэса — М. Х.) пагаднення аб асацыяцыі з Еўрасаюзам.

Па словах начальніка рэгіянальнай мытні ў Брэсце Уладзіміра Арлоўскага, Беларусь хоча пабудаваць новыя памежныя пераходы, але праблема ў «вузкіх месцах» паміж польскімі і беларускімі пераходамі (адсутнасць адпаведных дарог і парковак). Як сказаў, станоўчым прыкладам для паляпшэння руху на польска-беларускай мяжы з'яўляецца будаўніцтва прыгранічных тэрміналаў, дзякуючы чаму была зменена арганізацыя пагранкантроляў грузавікоў. Ён адзначыў таксама ролю абмену мытнай інфармацыяй. Беларусь уводзіць яе элементы, у 2016 г. хоча ўвесці бесперапынны абмен інфармацыяй з мытнымі службамі Украіны. Цяперашнія пілотныя рэалізацыі дахазваюць, аднак, што шмат трэба палепшыць у ствaранай сістэме, асабліва хуткасць перадачы (анлайн, а не пастфактум) і сапраўднасць інфармацыі.

Генеральны дырэктар Мытнага дэпартамента Літвы Антанас Шыпавічус заявіў, што прыкладам шматбаковага мытнага супрацоўніцтва з'яўляюцца краіны Балтыі, якія ад года ўвялі сістэму аўтаматычнага распазнавання аўтамабільных нумароў грузавікоў. Яна звязана з гісторыяй транспартнага сродка і перавозчай кампаніі, колькасцю перасячэнняў мяжы, злачыннасці і г.д.:

— Гэта вельмі эфектыўнае рашэнне, якое загадзя распазнае, між іншым, ступень рызыкі ў трансгранічным руху, элімінуючы фірмы і вадзіцеляў машын, якія спрабуюць парушаць мытна-падатковыя правілы. Я заклікаю польскія мытныя службы далучыцца да гэтай сістэмы і ўзбагаціць базу даных.

Тры балтыйскія дзяржавы маюць таксама самыя перадавыя і ўкаранёныя сістэмы: зялёных калідораў (вольны праход грузавікоў, у асноўным парожніх) і «аднаго акенца». Гэтае вырашэнне супольных пагранкантроляў розных памежных служб (мытных, пагранічных, ветэрынарных, фітасанітарных і г.д.) радыкальна скарачае час пераправак.

— У стварэнні міжнароднага аднаго акенца я бачыў бы найбольш эфектыўны спосаб паляпшэння памежнага руху на стыку ЕС — Усходняя Еўропа, — сказаў Антанас Шыпавічус. — Гэта таксама пытанне бонусаў для бізнесменаў, якія паважаюць правілы і набываюць статус надзейных перавозчыкаў або камерцыйных кампаній.

Уладзімір Арлоўскі ў канцы дыскусіі выказаў надзею:

— Калісь не будзе мяжы паміж Польшчай і Беларуссю. Гэтая мяжа ў любым выпадку не павінна дзяліць. Заканадаўства ў нас рознае, але з ніводнага боку не павінна быць ніякіх перашкод у перасячэнні мяжы.

У сваю чаргу ў ходзе дыскусіі на тэму «Памежны рух — палігон для эканамічнага супрацоўніцтва» яе ўдзельнікі разважалі пра наступствы пагадненняў аб малым памежным руху з Украінай (дагавор дзейсны з 2009 года), Калінінградскай вобласцю (з 2012 года) і дамове з Беларуссю, ратыфікаванай у 2010 годзе, але нядзейснай у сувязі з непрадачай адпаведных ратыфікацыйных нот беларускім бокам. Альжбета Войнар з Ваяводскага статыстычнага камітэта ў Жэшаве паведаміла:

— Найбольшая інтэнсіўнасць перасячэння ўсходняй мяжы Польшчы фіксуецца на мяжы з Украінай. Гэта больш за 14 мільёнаў перасячэнняў у год, у тым ліку палова датычыць малога памежнага руху. З Беларуссю — удвая менш. Даследаванні паказваюць, што мэтай падарожжаў асоб, якія перасякаюць мяжу з Украінай у напрамку Польшчы, у 95 адсотках з'яўлюцца пакупкі. У 2013 годзе замежнікі, якія перасякаюць усходнія пагранпераходы, пакінулі ў Польшчы 8 мільярдаў злотых, найбольш тыя, хто перасёк польска-ўкраінскую мяжу. У рамках малога памежнага руху з Калінінградскай вобласцю ўзрасла цікавасць замежнікаў да паслуг у Польшчы (удзел у мерапрыемствах, наведванне рэстаранаў, пражыванне ў гасцініцы і г.д.).

Дадала:

— У памежных паветах дынаміка росту колькасці суб'ектаў нацыянальнай эканомікі пасля ўвядзення малога памежнага руху, у тым ліку кампаній з замежным капіталам, з'яўляецца вышэйшай, чым ва ўсёй краіне.

Яцак Капіца:

— Малы памежны рух — гэта гіт у эканамічным, сацыяльным і палітычным плане. Дазваляе ён грамадзянам наблізіцца, пазнаёміцца з умовамі жыцця, стандартамі дзейнасці, а затым падымаць узровень прапанаваных паслуг. Гэта ўжо не палігон, а пастаянны грамадскі і палітычны элемент. Ніякі польскі палітык не пасмее замахнуцца на малы памежны рух. Гэта можа быць палігон для безвізавых паездак, напрыклад, з Украінай.

Спаслаўся на даныя, якія паказваюць, што ў 2010-2013 гг., дзякуючы малому памежнаму руху, двойчы ўзраслі выдаткі чужаземцаў у Польшчы:

— Згодна дэвізу «прыгранічны гандаль гэта не кантрабанда» варта, каб эканамічная актыўнасць грамадзян у рамках малога памежнага руху ператваралася ў зарэгістраваны бізнес, то-бок, «чаўнакі — час узаконіць бізнес».

Выказаў надзею:

— Варта, каб малы памежны рух быў у значнай ступені фінансаваны мясцовымі органамі ўлады, напрыклад, каб стварылі яны ўмовы для наступных пунктаў перасячэння мяжы.

Вармінска-Мазурскі ваявода Марыян Падзеўскі спаслаўся на наступствы малога памежнага руху з Калінінградскай вобласцю:

— Цяперашняя геапалітычная сітуацыя адносін у рамках малога памежнага руху не пагоршыла. Утвараюцца польска-рускія кампаніі не толькі для таго, каб перавозіць сасіскі. Малы памежны рух гэта не толькі пакупачны турызм, хаця не зможам адысці ад яго. Рэкорднае дасюль беспрацоўе ў прыгранічных раёнах нашага ваяводства скарачаецца.

Генеральны консул Польшчы ў Калінінградзе Марцін Носаль:

— Малы памежны рух з'яўляецца палёгкай для кантактаў, якія былі здаўна. У мінулым годзе мяжу з Калінінградскай вобласцю перасекла больш за 6,5 мільёна чалавек, а сёлета ў канцы ліпеня ўжо 4 мільёны. Сярэдні расіянін пакідае ў дзень у Польшчы каля 500 злотых. Вельмі шмат прыязджаючых расіян вывучае польскую мову і гаворыць па-польску. Малы памежны рух тут быў неабходнасцю, каб палепшыць польска-расійскія адносіны і аказаўся быць поспехам.

Генеральны консул Беларусі ў Беластоку Аляксандр Берабеня:

— Наша консульства ў 2012 годзе поўнасцю стварыла ўсе ўмовы для выдачы справак, якія дазвалялі б атрыманне віз для шматразовага перасячэння мяжы. Мы да гэтага гатовыя. У пагадненні аб малым памежным руху ўмовай для перасячэння мяжы і праве на такі пераход не можа быць працоўная ці прадпрымальніцкая дзейнасць.

Консул не адказаў прама чаму Беларусь па-ранейшаму затрымлівае рэалізацыю пагаднення аб малым памежным руху. Ён засяродзіў увагу на інфраструктурных недахопах на пераездах і вакол іх. Прапанаваў неабходнасць сумеснага пагранкантролю грузавікоў (заканадаўства ЕС на гэта не дазваляе). Падкрэсліў, што, безумоўна, малы памежны рух паўплывае на падтрыманне сямейных сувязей па абодвух баках мяжы, развіццё турызму і культурнага абмену. Консул выказаў здагадку, што будуць праблемы, звязаныя з малым памежным рухам на польскім баку, зона якога канчаецца на ўскраіне Беластока, у Засцянках, і асобамі, якія хочуць трапіць у падляшскую сталіцу.

— Хто будзе рэалізаваць кантроль над гэтым рухам? — пытаўся.

Абвясціў пры нагодзе:

— У мінулым годзе мы выдалі больш за 21 тысячу турыстычных віз, але колькасць асоб, якіх яны ахапілі, дасягнула 28 тысяч, таму што мы выдаем групавыя візы.

У сваю чаргу амбасадар Польшчы ў Мінску Лешак Шарэпка выказаў перакананне:

— Для мяне, думаючы пра малы памежны рух, найбольш важным з'яўляецца аспект кантактаў. Польска-беларуская мяжа дзеліць гістарычнае цэлае.

Раздумваў:

— Пасля чатырох гадоў чакання, магчыма, спатрэбіцца разгледзець пытанне аб тым, ці пагадненне аб малым памежным руху паміж Польшчай і Беларуссю не састарэла, ці не патрабуе паправак.

І звярнуў увагу:

— Што тычыцца польска-беларускай мяжы, законы не адпавядаюць рэчаіснасці. Асноўным дакументам, які рэгулюе нашыя памежныя пытанні, быў дакумент падпісаны яшчэ ў савецкія часы ў 1961 г. Некаторы час таму мы з беларускім бокам прыступілі да таго, каб змяніць такое становішча спраў. У 2008 г. мы ўжо падрыхтавалі адпаведны праект і былі пашыраны іншыя працы. Сітуацыя з выбарамі ў Беларусі ў 2010 г. спрычынілася да таго, што толькі зараз мы вяртаемся да гэтага дакумента. Без гэтага дакумента будзе цяжка сказаць, каб мы зрабілі якасны скачок звязаны з памежнай інфраструктурай. А пасля прыняцця гэтага дакумента трэба будзе прыняць яшчэ некалькі іншых актаў.

Дадаў:

— Гавару беларускаму боку, што трэба пайсці ў напрамку канкурэнцыі, і мы не будзем блакаваць адзін аднаго. У цяперашні час беларускі бок хоча абараніць свой кірунак забаронамі і загадамі.

На яго думку, так як і консула Берабені, лепшым фінансавым інструментам для рэгіянальнага супрацоўніцтва, таксама ў мясцовым самакіраванні, з'яўляецца еўрасаюзная прыгранічная праграма «Польшча-Украіна-Беларусь», якая мае быць працягнута ў новай бюджэтнай перспектыве ЕС да 2020 года.

У час іншых дэбатаў, не звязаных непасрэдна з памежнай інфраструктурай, удзельнікі дыскусіі прыйшлі да высновы, што існуе боязь, што ў канцы дзесяцігоддзя істотна не паменшыцца раздзел паміж станам развіцця дарожнай інфраструктуры ва ўсходняй Польшчы і сярэднім узроўнем у краіне. Гэта паслядоўнасць, між іншым, меншай шчыльнасці насельніцтва, большага яе ліку ў сельскіх мясцовасцях, ці меншага транспартнага патоку на дарогах і чыгуначных шляхах.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Кастусёў дом



■ Багдан Дудко перад уратаванай таблічай Кастусю Каліноўскаму

У адноўленым Гмінным цэнтры культуры ў Гарадку, інакш Доме культуры імя Кастуся Каліноўскага, суседа з Мастаўлян, студзеньскага паўстанца, зноў апынулася шыльда з мастаўлянскай школы, якая насіла яго імя, і партрэт намаляваны алеем Любай Красоўскай, які гадамі трымаў у таямніцы ў сваёй падручнай музычнай каморцы Янка Карповіч. Сёння з піетэтам гартаю пажоўклыя падшыўкі «Нівы», яшчэ з таго часу, калі мяне не было на свеце. Ды што значаць лікі — пяцьсот гадоў Гарадка, ніўскае паўстагоддзе ці стопяцідзесяцігоддзе падзей студзеньскага паўстання, якога баі праходзілі і ў тутэйшым старонні. Гэта як учора... А камяні і мармуры застаюцца... Нават калі маўчаць дзяржаўныя калоны, ёсць такія руплівцы на ніве, якія не забываюць.

На пачатку студзеня ў 1958 годзе прыгадалі былі ў «Ніве» пра гадавіну нараджэнаў Канстанціна Каліноўскага і студзеньскага паўстання: „Месяц студзень мае асаблівую вагу для беларусаў. У гэтым месяцы (21-га) мінае 120 год з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага, тым больш, што ў гэтым месяцы (22-га) адзначаем 95-ую гадавіну выбуху Студзеньскага паўстання, у якім Кастусь Каліноўскі адыграў выдатную ролю” («Ніва» № 1/1958). У студзені

**быў заснаваны Камітэт**

пабудовы помніка Канстанціну Каліноўскаму, 20.01. адбылося арганізацыйнае спатканне Камітэта. «Ніва» пісала: «Прыйшлі прадстаўнікі навукі, культуры, ваяводскіх улад, палітычных арганізацый і грамадскія дзеячы. Пасяджэнне адкрыў старшыня Прэзідыума Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку — Станіслаў Юхніцкі. Настаў час, каб грамадскасць Беласточчыны ўвекавечыла памяць нашага выдатнага земляка — героя беларускага і польскага народаў, які ўзняў барацьбу супраць царызму „за нашу і вашу вольнасць”. З цікавым дакладам на тэму дзейнасці Кастуся Каліноўскага выступіў пісьменнік Юзэф Кавальскі. Пасля даклада ўзніклі спрэчкі — як найлепш увекавечыць памяць Кастуся Каліноўскага. Перш за ўсё пастаноўлена назваць імем Кастуся Каліноўскага новапабудаваную школу ў Мастаўлянах, дзе ён нарадзіўся, і ўстанавіць там мемарыяльную дошку. Пастаноўлена звярнуцца да Прэзідыума Гарадской рады нарадовай у Беластоку, каб адну з вуліц у горадзе назваць ім. К. Каліноўскага. Вырашана таксама распачаць дзейнасць дзеля атрымання сродкаў на пабудову помніка Кастуся Каліноўскага ў постаці Дома народнай творчасці, які б быў названы імем Кастуся Каліноўскага, дзе б гуртавалася праца польскіх і беларускіх самадзейных калектываў і ладзіліся б іншыя культурныя мерапрыемствы. У заключэнні пасяджэння выбрана 30-асабовы Камітэт, які ўзначаліў старшыня Ваяводскай рады ў Беластоку Станіслаў Юхніцкі».

Стварэнне Камітэта як адну з самых важных падзей гэтага года адзначыў у сваіх успамінах «Віры» тагачасны галоўны рэдактар Георгій Валкавыцкі: «1958. 20 студзеня, напярэдадні 120-й гадавіны з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага, у клубе ТППР у Беластоку заснаваўся Камітэт пабудовы помніка нашаму слаўнаму земляку. Вырашылі будаваць помнік у форме Дома народнай творчасці, назваць адну з беластоцкіх вуліц імем Кастуся Каліноўскага, прысвоіць Кастусёва імя і новай школе ў Мастаўлянах. 30-асабовы камітэт узначаліў старшыня Ваяводскай рады ў Беластоку Станіслаў Юхніцкі». „Ніва” з нагоды 120-годдзя народзінаў Кастуся Каліноўскага прадставіла таксама, між іншым, біяграфічны артыкул Францішка Берніковіча, які пісаў аб ім: «Як жа ў сучасны момант прадстаўляецца праўда аб Кастусю Каліноўскім? 21 студзеня (ст. ст.) 1838 г. у сям'і Сымона Каліноўскага ў вёсцы Мастаўляны Беластоцкага павета прыйшоў на свет Кастусь Каліноўскі. Бацька яго, некалькі кіламетраў ад Мастаўлян у вёсцы Якушоўка меў невялікі маёнтак, а ў ім невялічкую ткацкую фабрыку. У гэтай мясцовасці Кастусь праводзіў свае маладыя гады. Пазнаваў жыццё тутэйшых сялян. Ад 1846 года да 1855 вучыцца ў школе ў Свіслачы. (...) Быў ён да апошняй хвіліны свайго кароткага жыцця непахільным змагаром за беларускую справу. У сваім звароце да беларускага народа пісаў: „Вашай народ, за свае чалавечыя і народныя правы, за сваю веру, за сваю зямлю родную! («Ніва» № 5/1958). Друкаваліся ў «Ніве» вершы паэтаў з Беларусі і Беласточчыны пра змагара за волю і шчасце беларускага народа, беларускага героя, артыкулы пра патомкаў Каліноўскіх у Беларусі, м.інш. Ільы Клаза, пра асобу і памяць Каліноўскага ў Беларусі: «Час захаваў для нас толькі некалькі фотаздымкаў Кастуся Каліноўскага, ды паданні аб храбрым Світцы, якія перадаваліся з пакалення ў пакаленне. (...) Удзячныя патомкі склалі не мала вершаў і песень аб народным багатыры. На сцэнах тэатраў ішла п'еса аб Каліноўскім, кінарэжысёры адлюстравалі яго вобраз на экране, гісторыкі і літаратуразнаўцы напісалі многа прац і манаграфій» («Ніва» № 10/1958). У «Зорцы» прапанаваліся насценгазеты ў школах, дзе навучаецца беларуская моладзь, пра жыццё і дзейнасць «нашага Кастуся».

Летам 1958 г. на старонках «Нівы» пачалася рэкламаванне грамадскага збору сродкаў на пабудову дома-помніка Кастусю Каліноўскаму, спасылаючыся на векавую супольную гісторыю, дзеля польска-беларускага яднання: „Набліжаецца Тысячагоддзе Польскай Дзяржавы. Вялікая гэта дата! Яна будзе ўрачыста адзначацца па ўсёй краіне. На працягу амаль усёй гісторыі польскага народа назіраюцца моцныя праяўленні творчага беларуска-польскага сяброўства і ўсёбаковага супрацоўніцтва. (...) Успомнім светлую постаць славутага Кастуся Каліноўскага. Студзеньскае паўстанне 1863 года перш выбухла на Беларусі, пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, і на Беларусі найдаўжэй яно пратрымалася, дзякуючы іменна Каліноўскаму, якога падтрымлівалі беларускі люд. (...) Пры народзінах Каліноўскага падзяляюць не толькі беларусы, але і палякі, польскія сяляне. Пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага ваявалі ўсе супольна за супольную справу. Нездарма Кастуся Каліноўскага завуць героем двух братніх народаў: беларускага і польскага. Камітэт па адзначэнню 120-годдзя з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага, які існуе ў Беластоку, разгортвае сваю дзейнасць. Пастаноўлена пабудаваць Дом-помнік Кастусю Каліноўскаму, дзе знайшлі б сабе адпаведныя памяшканні гурткі мастацкай самадзейнасці, гурткі народнай творчасці і беларускі хор і тэатр. Зразумела, што будуць тут перахоўвацца рэдкія памяткі і дакументы аб Каліноўскім. Камітэт звяртаецца да ўсяго грамадства Беласточчыны і краіны з просьбай складаць добраахвотныя грашовыя ахвяры. Галоўнае Праўленне БГКТ ужо выасігнадаравала і пераслала 10 тыс. злотых на рахунак Камітэта пабудовы помніка К. Каліноўскаму. Неабходна таксама, каб усе аддзелы нашага таварыства прыступілі да збірання добраахвотных грашовых складчын. Справа пабудовы Дома-помніка Кастусю Каліноўскаму — гэта справа ўсяго грамадства нашай краіны. Супольнымі сіламі

**пабудуем Дом-помнік**

Кастусю Каліноўскаму!” («Ніва» № 34/1958). Неўзабаве падалі нумар рахунка, на які можна было ўплачваць дабравольныя складчыны, інфармавалі аб ліку сабраных грошай і аб пералічэнні на яго 100 тысяч злотых Прэзідыумам Ваяводскай нарадовай рады: „Ужо сабрана 111.765 зл. на пабудову Дома-помніка К. Каліноўскаму ў Беластоку, у тым ліку Камітэт атрымаў 100.000 зл. ад Прэзідыума Ваяводскай рады нарадовай. Чытачы! Складайце добраахвотныя складчыны на пабудову Дома-помніка”, а ў «Зорцы» друкаваліся заклікі да размоў пра Кастуся: «Мы супольнымі сіламі збудуем Каліноўскаму помнік...”. Аднак, грамадская акцыя збору сродкаў на пабудову помніка не прынесла чаканых вынікаў, уплат было мала і сродкі былі замалыя. «Ніва» адзначала: „На «Дом-Помнік» К. Каліноўскаму ўплацілі: Ф. Баслык — 55 зл., Ул. Лазінскі — 20 зл., Школа ў Седлісках, павет Ольштын — 52 зл., ПСС у Беластоку — 2.000 зл. Просім чытачоў прысылаць свае добраахвотныя складчыны на конта камітэта: ПКО — 12-9-315 у Беластоку”.

Летам 1959 г. было адзначана, што малаверагоднай будзе пабудова дома-помніка з-за малых сродкаў са збораў. Чытачы разважалі, ці варта ўвогуле будаваць такі помнік. „Мы атрымалі некалькі лістоў, у якіх нашы чытачы пытаюць, ці будзе пабудаваны Дом-помнік К. Каліноўскага (...). Камітэт (...) запланаваў сваю дзейнасць да 1964 г. Да гэтага часу Камітэт павінен: 1) Перайменаваць вуліцу Новасасновую ў Беластоку на вуліцу К. Каліноўскага. 2) На радзіме К. Каліноўскага ў Мастаўлянах умураваць у новапабудаваную школу мемарыяльную дошку і прысвоіць гэтай школе яго імя. 3) На працягу 5 год Камітэт пры дапамозе ўсяго грамадства мае сабраць сродкі на пабудову Дома-помніка К. Каліноўскага ў Беластоку і ў 100-гадавіну смерці закласці фундамент пад гэты дом («Ніва» № 34/1959). Пеця Іванюк з Плёсак разважаў: „Вы пісалі ў апошнім нумары «Нівы», што грамадскі камітэт пабудовы Дома-помніка К. Каліноўскага сабраў мала грошай. На маю думку неабходна пабудаваць гэты дом і такім чынам ушанаваць памяць нашага героя. Патрэбна таксама дапамагчы камітэту ў зборы грашовых сродкаў. Я думаю найлепш было б, каб кожны чытач нашай газеты праўёў працу ў сваім асяроддзі, сабраў грошы і выслаў на адрас Камітэта, або рэдакцыі. І таму заклікаю ўсіх чытачоў распачаць збор грошай, і падтрымаць гэтым самым ініцыятыву грамадскага камітэта” («Ніва» № 25/1959). Францішак Берніковіч з Седліск дапытваўся: „На працягу амаль цэлага года Камітэт змог сабраць (...) 21 тыс. зл. (нельга лічыць 100 тыс. зл. атрыманых з ВРН у Беластоку). На аснове ўсяго гэтага можна сцвердзіць, што Камітэт бяздзейнічае, бо інакш гэта цяжка зразумець. Да гэтага часу, так здаецца, толькі рэдакцыя «Нівы» праяўляе ў гэтай справе якую-небудзь ініцыятыву. Але рэдакцыя не можа кіраваць гэтай справай, і таму неабходна ажывіць Камітэт. На мой погляд, гэтай справай павінна больш заняцца Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Трэба, каб яно паклікала пры ГП БГКТ падкамітэт будовы Дома-помніка. Падкамітэт павінен складаць на кожным пленарным пасяджэнні ГП БГКТ справаздачу аб сваёй працы. Думаю, што спаборніцтва ў гэтай справе польскага і беларускага грамадства ў нічым тут не пашкодзіць. Тым больш і дагэтуль такое спаборніцтва існуе, але існуе яно ў бяздзейнічанні. Пакрываць недахопы працы Камітэта пабудовы Дома-помніка тым, што падымалася для гэтага шмат акцый, нельга. У апошні час адзін з часопісаў паведаміў, што ў самым Беластоку жыхары гэтага горада выпіваюць у год на дзясяткі мільёнаў зл. гарэлкі. Гэта зусім не гаворыць аб недахопе сродкаў. Справа пабудовы Дома-помніка Кастуся Каліноўскага — гэта важная справа не толькі таму, што гэтым умацуе памяць свайго нароўнага героя, хоць гэта і найважнейшая мэта, але і таму што, будуючы Дом-помнік, мы прыложым цаглінку да развіцця беларускай культуры. Гэтым самым мы падтрымаем аўтарытэт Беларускага грамадска-культурнага таварыства, а гэта не благая справа” («Ніва» № 36/1959). Справа пабудовы помніка Каліноўскаму канчаткова была вырашана ў 1964 г. Да таго вуліцу Новасасновую ў Беластоку назвалі імем К. Каліноўскага. У 1959 г.

(працяг будзе)

Міраслава КАСТАНЧУК

## Па гарачых слядах

У Беластоку ёсць вялікі абжыты жыллёвы пасёлак Лясная Даліна. Ад цэнтра горада можна да яго даехаць аўтобусамі гарадской камунікацыі № 20 і 12. На праезд трэба патраціць крыху часу, хаця ездзяць яны даволі часта.

Паміж шматсямейнымі блокамі пабапал вуліц Шарых Шэрэгаў і Арміі Краёвай знаходзіцца незабудаваная травяністая плошча. Тут растуць пераважна ліставыя дрэвы і кустарнікі. Ёсць спартыўная пляцоўка з варотамі ды пясочніца для дзіцячых гульняў.

Калі ёсць вольная плошча, тады жыхары сталі пратоптваць сабе сцяжынкі напрасткі і наўскрыж. Там, дзе найбольш іх ходзіць, пачалі нават пракладку даволі шырокага тратуара. Пачалі (можа беспланава?) і не закончылі, пакінулі дый годзе. Зараз спяшаеш да аўтобуса напрасткі і раптам тратуар абрываецца... Ляжаць абы-як пабітыя тратуарныя пліты, далей мяккі пясок, а пасля дажджу гразь і стаяць лужы.

Калі б былі лавачкі, у гэтым міні-парку можна было б прысесці на іх і адпачыць. Як дагэтуль, паўсім відаць, пра гэта ніхто не падумаў. Нашу крытыку кіруем да пасялковай «Wspólnoty Mieszkaniowej». Да гэтай пары не паклапаціліся яна яшчэ як след нават пра кантэйнеры ды кошыкі для смецця. Іх тут замала. Уся непатрэбшчына ляжыць на траве за трыма невялікімі ўмяшчальнікамі і яны пад замком. Не відаць тут рукі добрага гаспадара.

## Аб усім патрошкі

Сёлета пры канале ў прыгожай Супраслі Беластоцкага павета пабудавалі два драўляныя прыстрэшкі са століками і лавачкамі ды ажурную кладку. Ёсць тут грыль. Жыхары горада і турысты ахвотна прыходзяць сюды адпачыць.

Зараз у Супраслі рамантуюць Народны дом, пабудаваны ў 1934 годзе ды дабудоўваюць балкон. Будынак будзе ашаляваны. У ім на двух паверхах будзе 150 глядзельных месц. Рамонт закончаць у кастрычніку гэтага года. Тады тут будуць ладжаны канцэрты і спектаклі. Народны дом будзе прадстаўнічым аб'ектам Супраслі.

Супрасль знаходзіцца ў самым цэнтры Кнышынскай пушчы, таму ў горадзе будуць ставіць экалагічныя сонечныя калектары для нагрэву вады. Частка грошай на першую такую інвестыцыю ў гміне будзе еўрасаюзная.

Першыя сонечныя калектары з'явяцца ў наступным годзе на дахах дзвюх школ, прадшколля і на дахах 200 прыватных дамоў. Гэта важная справа. Калі жыхары Супраслі будуць больш карыстацца сонечнай энергіяй, тады менш спаляць вугалю, дроў і газу. І паветра ў гэтым курортным горадзе будзе менш забруджанае. Карысна будзе гэта і для людзей, і для навакольнай пушчы.

## Новая маставая

Гэта вельмі важная інвестыцыя, якой жыхары Міхалоўскай гміны Беластоцкага павета чакалі шмат гадоў. У верасні г.г. пачалі мадэрнізацыю ваяводскай дарогі з Міхалова ў Юшкаў Груд. Гэтая траса вядзе, між іншым, у Семяноўку (Гайнаўскі павет), дзе знаходзіцца чыгуначны памежны перагрузачны пункт на шляху Чаромха — Гайнаўка — Свіслач. Перабудова шашы будзе праводзіцца этапамі і плануюць закончыць яе ў 2020 годзе.

Дарога будзе пашыраная да сямі метраў. На рацэ Супрасль пабудуюць новы мост. Пры гэтай артэрыі пабудуюць новыя аўтобусныя прыпынкі ды веласіпедныя дарожкі.

Зараз побач ваяводскай дарогі на адрэзку ад Міхалова ў Новую Волю ссеклі амаль усе таполі. Тут непадалёк Лясанкі ўжо будуюць новы масток.

(яц)

зоркa
для дзяцей і моладзі



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# 70 гадоў белліцэю

*... Школа, парк...*
*У парку — лавачка, не адна.*
*Жарты, усмешкі,*
*першыя вершы.*
*Найпрыгажэйшыя ў свеце*
*твары дзяўчат...*

Так пра Бельскі беллiцэй пiсаў Юры Баена. I зараз, калi школа адзначала дастойны юбiлей, сваё 70-годдзе, усё актуальна. Напэўна жыве дух сяброўства мiж моладдзю i, як трапна прыкмецiў паэт, гэтаму спрыяе прыгожы парк, якi пачынаецца за парогам беллiцэя. Прырода — душа беларуса. Якраз на лавачках, сярод старых дрэў, добра на момант забыцца пра школьныя клопаты i абавязкi. У гэтым усiм дапамагае сяброўства, i „найпрыгажэйшыя твары дзяўчат”, — як шчыра адзначае паэт...

З пачуццём захаплення я глядзела на першакласнiкаў, якiя давалi „шлюбаванне” i на iх старэйшых сяброў, якi выступiлi ў мастацкай частцы. Яна была адначасова класiчнай i свойскай у найлепшым значэннi. Беларускiя эстрадныя i народныя песнi ўпрыгожылi вершы пра беллiцэй. Iх аўтары — Вiктар Швед, Юры Баена, Юрка Генiюш, самi выпускнiкi або сябры школы. Iх пашана i захапленне школай, запiсаныя ў творах, цудоўна ажыццявiлi сучасныя лiцэiсты. I важна, што зрабiлi гэта спантанна, якасна i з адчуваннем нагоды. Настаўнiцы Iаанна Хiлькевiч, Яўгенiя Таранта, Анна Бжазоўская i Алiцыя Нiдэ, якiя рыхтавалi выступленне, атрымалi шмат вiншаванняў ад гасцей i бацькоў. I моладзь не засталася ў даўгу. На маiм фейсбуку, дзе паказана святкаванне ад 26 верасня г.г., найбольш лайкаў атрымалi настаўнiцы беларускай мовы! Пра значэнне настаўнiкаў, якiя пiшуць нашу кнiгу жыцця, былы выхаванец, паэт Юры Баена гаворыць так:

*... Бельскі беларускі ліцэй —*
*белы наш карабель,*
*Крыніца свята,*
*Адкрытая на надзею*
*кніга жыцця...*
*І што тут дадаць...*

З юбiлеем, дарагiя сябры!

ЗОРКА,
фота Ганны Кандрацюк









## ПРА ПАРАСОН

*(эстонская казка)*

Адзін чалавек выбраўся ў госці да сяброў у суседнюю вёску. Паколькі было пахмурнае надвор’е, ён абачліва прыдбаў на дарогу парасон. У дарозе яму захацелася піць. Там, непадалёк тракта, была крыніца. Чалавек пакінуў свой парасон на абочыне дарогі і сам павярнуў да крыніцы.

У той самы момант дарогай праходзіў незнаёмы. Ён узяў парасон, разглянуўся, ды пашыбаваў быццам нічога не здарылася. Калі на дарогу вярнуўся ўласнік парасона, ён не ведаў што думаць. Дзе ж падзеўся яго парасон? Крыху далей ён убачыў пешахода, які ішоў з яго парасонам. Чалавек падбег і кажа:

— Гэта мой парасон, калі ласка, вярніце яго!

— Не, гэта мой парасон, — адказаў незнаёмы.

Яны доўга і заўзята спрачаліся. У рэшце рэшт яны пайшлі ў суд.

Суддзя выслухаў іх справу і сказаў:

— Разламіце гэты парасон напалову і вяртайцеся дамоў. З вамі пойдуць мае памагатыя. Пасля яны мне раскажуць пра ўсё, што пачуюць ды ўбачаць.

Калі той незнаёмы, што падабраў чужы парасон, зайшоў дахаты, дзеці і жонка спыталі на прывітанне:

— А дзе ты ўзяў гэтую палову парасона? Ды і навошта нам такое ламачча ў хаце?

А калі вярнуўся ў хату ўласнік парасона, яго сын спытаў:

— Ой, бацька! А што ты зрабіў з нашым парасонам? Дзе другая палова?

Памагатыя вярнуліся ў суд і расказалі ўсё што пабачылі і пачулі. Тады суддзя загадаў злодзею заплаціць грошы за парасон.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*



*Першы клас з Мірай Лукшай і Нінай Абрамюк*

# «ПАДАРУНКІ» НАРВЕ

У панядзелак раніцай у нарваўскую школу прыехалі з «Падарункамі» Міра Лукша — аўтарка вершаў для дзяцей і Кася Сянкевіч — ілюстратарка кнігі, яшчэ не так даўно вучаніца нарваўскай школы і гімназіі. Міра Лукша таксама адчувала сябе тут як у сябе — вучні першага класа прынялі яе як сваю «паню», калі прысела ў класе за сталом перад урокам. Паказвалі свае



*Оля і Ігар Кардашы маюць сваe супольныя «Падарункі»*

святлоадбівальныя значкі («адблескі»), што атрымалі ад паліцыянта, пыталіся, ці не могуць хуценька збегаць у школьную крамку. «Пэўна, хочаш купіць сабе нешта шкоднае!» — памахала пальцам паэтэса з вясёлай мінай. Хто не памятае, што рабіў у дзяцінстве, той не паэт!

Вучні другога і трэцяга класаў найбольш цікавіліся малюнкамі пані Касі. Мастачка прынесла арыгіналы — на фанерных дошчачках былі намаляваны істоты з кнігі. Можна было да іх дакрануцца! Адчуць фактуру — не толькі фарбаў! Малюнкі зроблены пчаліным воскам, мармуровай мукой, жывіцай, крэйдай, часам выпальваны былі агнём! Нават прыклеена фіранaчка — на акне, дзе сядзіць кот Фелікс. У кнізе яны нейкія плоскія — на гладзенькай паперы побач вершаў бачацца яны крыху інакш. І ўсе глядзелі і параўноўвалі: на шостай старонцы — чарадзейны конік. А на дзясятай — непаседлівы Федзя. А калі аўтарка прачытала верш, хацелася такую прыгожую кнігу і для сябе дома. Адной дзяўчынцы аж паказаліся слёзкі ў вачах: не хопіць кніжкі для яе! Хапіла! З аўтографам старэйшай сяброўкі — Касі, якая ў гэтым класе таксама вывучала беларускую мову! І мела такія ж мары — яна пра іх раней расказвала пані Ніне. І вершы пачала пісаць у чацвёртым класе. А адна вучаніца, Магда Корч, якая не хадзіла да гэтай пары на беларускую мову, ціхенька папрасіла ў настаўніцы ці і яна можа прыходзіць на ўрокі беларускай мовы. Бо тут так цікава! Беларуская мова прыдаецца ў жыцці! І можна на ёй выказаць усё, што хочаш! А пасля дзяліліся «Падарункамі» — бо і ў першым класе, які прыйшоў пасля на сустрэчу, сярод вучняў былі браты і сёстры. І яны хацелі мець аўтограф і ўзяць кнігу дахаты. Ігар і Оля Кардашы дапільнавалі: і яна, і ён пералічаны над аўтографамі. Гэта іх цяпер супольная кніга!

**(лук)**

## Увага, конкурс!!! (№ 40-14)

### Загадкі з роднай хаткі

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 10 кастрычніка, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.** Іголкі на спіне, на шыі...
Ён з імі не расстаецца.
Іголкамі зусім не шые,
аднак жа карыстаецца.
(в....)

**2.** Даўгавухі, касавокі,
скача без аглядкі
ад ваўка і ад лісіцы...
Хто знайшоў адгадку?
(з...)

**3.** Стаіць у шоламе агністым
На ўзлеску воін ганарысты.
Ад мух ахоўвае ён бор,
Завем яго мы м.......

## Вершы Віктара Шведа

### Лепшы хатні тэлевізар

Унук дзядулю запытаўся:
Як фільм у кіно падабаўся?
Дзед адказаў: — Мілы Вацік,
Лепей фільм глядзець у хаце.

Там нейкая злая старуха
Пастаянна шыпела да вуха:
— Ты храпеш, дзядуля, да стомы,
Забываеш, што мы не дома.

### Яблык не падае далёка

— Тата, пані прыгадвае,
Што спелы яблык не падае
Ад яблыні сваёй далёка.
Якія з гэтага ўрокі?

— Што ты, гарэза Коля
Натварыў зноўку ў школе,
Што бацькам вінаваты
У гэтым твой тата?

### Спарахнелы пень

— Пытае дзядзьку Алеся:
Ці вы нарадзіліся ў лесе?
— А чаму ты, дзяўчынка малая,
Так дзіўна мяне пытаеш?

— Перад хвілінаю тата
Сказаў неяк так дзіўнавата:
— Зноў прэцца да нас, як штодзень,
Гэты спарахнелы пень.

### Дзіцячая шчырасць

Госць паклікаў Адама:
— Ты спытай сваю маму,
Хачу я аб тым ведаць, —
Калі будзем абедаць?

— Я ўжо пытаўся, дзядзя,
Калі за стол мы сядзем,
Сказала мне зухавата:
— Калі госць выйдзе з хаты.

## Польска-беларуская крыжаванка № 40

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 37:**

Знак, шпора, ара, рух, школа, яд, код, агат, на. Панда, бор, рашка, за, кот, род, агул, хата. Узнагароду, кніжку Алены Масла „Пацучок Фэлік падарожнічае” выйграла **Марта Семянюк** з Гайнаўкі. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Fakt / Łapa | | Statek | Aparat | | | | | |
| | | | | Och! | Tona | Grzywa / Powieka | | |
| Maska samochodu | | | | | | | | Opieka |
| | | | | | | | | |
| Ubezpieczenie | Ar | | | | | Ach! | | |
| Płot | Chata | | | | | Bierz | | |
| | | | | | | | | |
| | Pi | | Brama | | | | | |

# IV Бульбафэст у Ліпінах

**Некалькі гадоў назад на панадворку солтыса Ліпін Кацярыны Якубоўскай спаткаліся некалькі сямействаў, каб супольна правесці час і адпачыць, спажываючы нядаўна выкапаную бульбу. Тады паўстала ідэя, каб чарговая сустрэча, спалучаная з пячэннем бульбы, была адкрытая на ўсіх жыхароў Ліпін і наваколля. Мерапрыемства афіцыйна было названае бульбафэстам.**




Старшыня аб'яднання «Крыніца» і солтыс Ліпін Кацярына Якубоўская – арганізатарка фэсту (на першым плане)

— Тады мы сваімі сіламі збудавалі невялікую сцэну і запрасілі выступіць знаёмыя нам калектывы. Гэты другі бульбафэст быў невялікім па маштабе, але адбываўся ў цёплай і сардэчнай атмасферы. Пазней мы рашыліся разгарнуць дзейнасць і ў красавіку 2013 года заснавалі аб'яднанне «Крыніца», да якога належаць жыхары Ліпін і наваколля. Восенню 2013 года, з дапамогай гмінных улад, нашае аб'яднанне наладзіла вялікі III Бульбафэст, — сказала намесніца старшыні аб'яднання «Крыніца» Іаанна Кірылюк.

IV Бульбафэст адбыўся ў Ліпінах 13 верасня гэтага года на вялікай пляцоўцы за прыгожа адрамантаванай вясковай святліцай. Войт Гайнаўскай гміны Вольга Рыгаровіч пахваліла жыхароў Ліпін за іх актыўнасць і працу ў карысць мясцовага грамадства. На свята бульбы прыбылі перш за ўсё жыхары Гайнаўскай і суседніх гмін, каб паспрабаваць бульбяныя стравы і паслухаць свае песні. Дзетак і моладзь прыцягвалі пляцоўка для гульняў і іншыя атракцыёны.

— Надвор'е сёння цудоўнае, многа людзей прыбыло на фэст, а на сцэне прыгожа выступаюць калектывы. Рашыліся мы арганізаваць многа конкурсаў, каб разварушыць дзетак і дарослых. Стараліся мы, каб бульба была ў цэнтры змаганняў. Дзякуючы шматлікім спонсарам можам даваць цікавыя ўзнагароды. Апрача Гміннай управы ў Гайнаўцы і Гайнаўскага старасва вялікую падтрымку атрымалі мы ад рэстарана «Гайнавянка» з Гайнаўкі і скульптурнага прадпрыемства «Шума» з Белавежы, — сказала старшыня аб'яднання «Крыніца» і заадно солтыс Ліпін Кацярына Якубоўская, якая арганізавала фэст. Падчас фэсту людзей частавалі бульбянымі дранікамі і печанай бульбай. Пасля над вогнішчам ахвотныя апякалі каўбаскі, можна было пачаставацца вяндлінай, якую падрыхтавалі члены аб'яднання «Крыніца» падчас майстар-класаў. Сёлетні бульбафэст і летнія майстар-класы былі арганізаваны ў рамках праекта «Рыхтаванне здаровага харчавання аб'яднаўвае пакаленні».

— Зараз добры час на арганізаванне бульбафэсту. Людзі сабралі з поля бульбу і могуць адпачываць, слухаючы сваю музыку, — гаварыла Іаанна Кірылюк.

Жанчыны з Дубін дзейнічаюць у Гуртку вясковых гаспадынь. Падчас бульбафэсту прадавалі яны сувеніры з мэтай сабраць сродкі на дзейнасць гуртка. Дзеткі малявалі на конкурс, а дзеячы аб'яднання «Яны, гэта мы», на чале з Наталляй Герасімюк, прадавалі вырабы і сувеніры, выкананыя, між іншым, вязнямі Следчага арышту ў Гайнаўцы, у якім аб'яднанне актыўна працуе. На бульбафэст прыбыў таксама дырэктар Следчага арышту Раман Пашко, які ўдала выступіў з калектывам «Гармонь» з Ласінкі. Перад шматлікай публікай цікава запрэзентаваліся дзеткі са Школьна-прадшкольнага комплексу ў Дубінах, якія займаюцца ў Гмінным асяродку культуры пад наглядам Пятра Скепкі.

— Вельмі важна выхаваць маладых спевакоў, бо на іх аснове можна тады заснаваць калектывы. Члены нашых «Дубіноў» нават і цяпер выступаюць у беларускіх калектывах. Мне хочацца навучыць спяванню і выступам перад публікай дзетак з Дубін і наваколля, якія сёння ўдала запрэзентаваліся. Гэта нашая будучыня, бо старэйшыя спевакі будуць памалу адыходзіць, — сказаў Пётр Скепка, які на сцэне састаўляў акампанемент для калектыву «Жаваранкі» з Махнатага, музычным кіраўніком якога ён з'яўляецца. Гэты калектыў цікава выступіў перш за ўсё з беларускім рэпертуарам і запрэзентаваўся ў новых касцюмах пажарнай аховы.

— Новыя касцюмы мы купілі за сродкі ад ваяводскай управы Пажарнай аховы і ад нашай Гміннай управы. Выступалі мы ўжо ў новых уборах на Дзень пажарніка ў чэрвені гэтага года і рашыліся запрэзентавацца таксама сёння. Паказваем сабраным таксама нашую новую і абсталяваную пасучаснаму пажарную машыну, якую атрымалі за еўрасаюзныя сродкі ў супрацоўніцтве з Беларуссю ў рамках Еўрарэгіёна «Белавежская пушча». У беларускіх уборах, якія прывезлі мы з Беларусі, выступаем найчасцей падчас беларускіх мерапрыемстваў. Да нашага калектыву належыць 14 чалавек, — гаварыў арганізацыйны кіраўнік беларускага калектыву «Жаваранкі» і заадно пажарнік Аляксей Герасімюк з Махнатага. — У нашай вёсцы вельмі актыўна дзейнічае пажарная каманда дабравольцаў, да якой належыць ажно 49 чалавек, разам з ганаровымі членамі. Нядаўна атрыманая пажарная машына гэта нашая гордасць. Вельмі яна нам спатрэбіцца падчас тушэння пажараў.





На сцэне адважна выступілі дзеткі і іх сямейнікі з Ліпін і наваколля – удзельнікі праекта «Спяваем сямейна і малюем гісторыю»

Не толькі дзеткам цікава было паглядзець вялікую пажарную машыну, якая прэзентавалася на пляцоўцы бульбафэсту. На вялікай сцэне адважна выступілі дзеткі і іх сямейнікі з Ліпін і наваколля, якія падчас канікулаў у рамках праекта «Спяваем сямейна і малюем гісторыю» займаліся ў Ліпінах пад наглядам гміннай раднай Алімпіі Балтрамюк.

— У нас падчас канікулаў займалася каля трыццаці дзетак. Многа працавалі мы на свежым паветры, арганізавалі заняткі ў святліцы. Рысавалі, малявалі і вучыліся спяваць, таксама па-беларуску. Я хацела б пазнаёміць маладых з нашай гісторыяй, беларускай культурай і акружаючай нас прыродай, але дзеля гэтага патрэбная даўжэйшая актыўнасць, — сказала радная Гайнаўскай гміны Алімпія Балтрамюк. Частка дзетак, з якімі яна і яе памочнікі займаліся, выступіла на сцэне падчас фэсту. З дзеткамі выступілі таксама іх сямейнікі, між іншым, дзядуля Веслаў Камарэўскі — старшыня Рады Гайнаўскай гміны. Свае вершы па-польску і на беларускай гаворцы дэкламавала Аліна Артэмюк з Ліпін.

— Свой верш «Бульбафэст» я напісала на мясцовай гаворцы. Запрапанавалі мне прачытаць яго падчас мінулагодняга «Бульбафэсту». Пасля напісала я іншыя вершы, частку якіх прачытала сёння. Не вучылася я ў школе беларускай літаратурнай мове і таму пішу на гаворцы, — сказала Аліна Артэмюк.

Дзеткі падчас фэсту ўдзельнічалі ў конкурсах па маляванню, паказвалі свае ўменасці ў час спаборніцтваў па бегу з бульбай у руках. Трэба было размеркаваць бульбіны ў памечаныя крэйдай месцы, быццам пасадзіць яе, а пасля сабраць у кошычкі, быццам выкапаць яе. Дарослыя жанчыны і мужчыны траплялі бульбай у пластмасавыя вядзерцы і ў мяшках скакалі навыперадкі. Вялікае зацікаўленне выклікала спаборніцтва, падчас якога моцныя мужчыны стараліся як найбольш разоў падняць над галаву на працягу мінуты часу дваццацікілаграмовы мяшок з бульбай. Аднак былі праблемы, каб аднолькава ацаніць выступаючых, бо не ўсе падымалі мяшок над галаву. Здаралася, што падымалі толькі нароўні з галавой, што было намнога лягчэйшым для выканання. Пасля ўдзелу ў конкурсах дзеткі гулялі каля сцэны і на пляцоўцы для гульняў. У састаў Ліпін уваходзіць *гістарычная* вёска, што абапіраецца ажно аб самую Белавежскую пушчу і новы квартал вёскі, які абапіраецца аб Гайнаўку. У даўняй частцы вёскі Ліпіны маладыя сужонствы будуюць і рамантуюць дамы. Солтысам у Ліпінах ёсць таксама маладая жанчына Кацярына Якубоўская, родам з Трасцянкі. Дзейнасць ліпінскага аб'яднання «Крыніца» ў асноўным раскручваюць маладушша асобы, але ў яго працу ангажуюцца таксама старэйшыя, якія падчас фэсту, між іншым, частавалі сабраных бульбянымі стравамі.

— У гэтым годзе «Крыніца» арганізавала майстар-класы ў агракватэры Уладзіслава Грыкі ў Сушчым Барку. Там мы паказвалі як у мінулым жалі збожжа на полі і як пяклі хлеб. Ладзілі мы таксама майстар-класы па падрыхтоўцы здаровага харчавання. Усё гэта рабілі ў рамках праекта «Рыхтаванне здаровага харчавання аб'ядноўвае пакаленні». У святліцы ў Ліпінах летам гулялі і адпачывалі мясцовыя дзеткі. Сёлета на «Тройцу» мы разам са Студзіводскім музеем вадзілі куста па Ліпінах, а пазней ездзілі ў Студзіводы на зажынкі, — расказвала Іаанна Кірылюк з аб'яднання «Крыніца».

Апошнім на сцэне фэсту выступіў калектыў «Retro-Beats» з Гайнаўкі, пад музыку якога ахвотна гулялі.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# За Шымкамі



Уваход у будынак былой школы ў Шымках



З аўтобуса злажу ў Шымках, кіруючыся ў бок Навасад і Залешан. Менавіта з таго ўсходняга канца Шымкаў мела пачацца мясцовае будаўніцтва Другой Польшчы. Тут менавіта спачатку паказваецца асобны будынак паштамта, да якога здаўна не заглядаў ніякі паштальён. Крыху далей будынак былой гмінная управы, да якога цэментныя прыступкі раструшчваюць не чыноўнікі і іх наведвальнікі, але нястомны Час. Крыху далей маладым лесам зарастае школьны панадворак, а трохпавярховы будынак былой школы дыхае толькі адкрытымі аконнымі форткамі. Далей будынак колішняй геэсаўскай крамы з двух каліcь адсекаў — спажывецкага і сельскагаспадарчага, у якіх у сямідзясятых гадах клубіліся масы мясцовага і навакольнага насельніцтва; цяпер тую даўнюю краму ўжо вельмі цяжка пазнаць — не толькі таму, што яна вельмі грунтоўна замаскіравана шчыльнай зеленню маладых дрэў, але і цяжка — на душы ад бачанага. Яшчэ далей — шмат будынкаў геэсаўскай базы, якія самотна і бездапаможна ледзь хаўкаюць ад змагання з напорыстым Часам. А яшчэ далей — такая ж база іншага напрамку сельскагаспадарчага прагрэсу — зарастаючы пустазеллем пляц сельгасгуртка... Так там цяпер выглядае светлапрамяністая калісь Другая Польшча. А і калісь таксама было цікава; Слоўнік Каралеўства Польскага: „**Szymki, gmina obejmuje 30 miejscowości, 572 domy włościańskie (149 innych), 3905 mieszkańców włościan, uwłaszczonych na 7751 dz[iesięcinach]. Nadto w gminie jest 281 dz. cerk[iewnych] i 2470 większej posiadłości. Urząd gm. w mstku Jałówka. Wieś [Szymki] o 45 wiorst od Wołkowyska, ma 79 domów, stację pocztową; w 1880 r. zgorzała do szczętu**”...

Іду ў Навасады. Вакол асфальтоўкі палявая мазаіка: ёсць палеткі зусім расчышчаныя для пасеву культурных раслін, ёсць палеткі буйна зарослыя невысокай яшчэ прыродай, ёсць і палеткі, дзе пакуль згодна растуць культурныя і менш „культурныя” расліны.

На тратуары ў Навасадах размаўляюць траіх мужчын, народжаных у адлеглых ад сябе гадах. Наймалодшы, даволі жвавы, з залатой савецкай усмешкай, пахваліцца мне, што яго вельмі сардэчным прыяцелем з'яўляецца Багдан Дудко. Найстарэйшы, Міхал Кардаш, якому ўжо восемдзесят чатыры, пахваліцца, што размаўляў з Сакратам Яновічам, калі ён прыязджаў у Цісоўку. Толькі сярэдні з іх стрымана адыходзіць крышку ўбок, то зноў крышку бліжэй, то зноў трымаецца месца з краю...

Але мая ўвага спярша лунае далей, у Залешаны, дзе я шмат-шмат гадоў таму быў бачыў пакінутую на канцы вёскі мураваную ў міжваенны час школу, якая тады навяла на мяне сум ад заняладу дбайна калісь узведзенага адукацыйнага будынка. І вось спадар Кардаш паведамляе мне, што школу тую пабудаваў ялоўскі войт міжваеннага перыяду, прозвішча якога Гонтар і выводзіўся ён менавіта з Залешан. Але не толькі ў сваёй вёсцы пабудаваў ён прыгожы школьны будынак; такія ж школы былі пабудаваны ў яго гміннае гаспадаранне і ў апынуўшыхся зараз за граніцай Качках і Нязбодзічах. А гміна магла тады адважыцца на такі інвестыцыйны высілак, бо вялікая была — у яе межах было, напрыклад, Страшава ды Дрэчаны, Зарэчаны і Сток, што ўжо каля Свіслачы.

Даведваюся таксама, што на працягу чатырох пасляваенных гадоў і Залешаны былі ў межах Савецкага Саюза, а мяжа пралягала амаль цераз панадворак Яна Вялічкі, сталяра, якога ў народзе называлі панам; панадворак той знаходзіўся на грудку, што побач мастка на рэчцы Цісоўцы — магчыма, што па той рэчцы і пралягала тадышняя дзяржаўная граніца.

Мой расказчык хвалюецца, ды і я хвалююся, бо ж перада мною шмат дарогі ды не надта многа часу, таму размова крышку разладжаная. Вёска Навасады зараз пасля вайны налічвала пяцьсот пяцьдзясят ці шэсцьдзесят людзей, было сто дваццаць пяць ці сто трыццаць нумароў... Сто пяцьдзясят, — падказвае той стрыманы трэці вясковец. Можа і так, бо ж кругом былі навасадскія калёніі, аж пад Ялоўку даходзілі, але ўжо шмат з іх няма. Каля 1880 года, як падае Слоўнік Каралеўства Польскага, былі ў Навасадах 64 хаты, у якіх пражывала 517 душ на 1288 дзесяцінах.

Пытаю, ці ў Навасадах была крама. Мы самі, адказвае спадар Кардаш, уплачвалі пай, ад дарослых асоб, каб за сабраныя грошы запасціся таварам. Тавар вазілі чыгункай з Беластока да станцыі, якая тады называлася Крынкі, а пазней Зубкі, а адтуль спярша на плячах насілі, а толькі пасля давай фурманкамі ў Навасады вазіць. Тут, у Навасадах, была крама нумар адзін, а ў Міхалове была крама нумар два. Пры санацыі ў Навасадах было два *склепікі*. Наш *склеп*, калі паўставаў, быў у прыватнай хаце. Зладзілі яго два-тры гады зараз пасля вайны. І пажарную каманду ў нашай вёсцы таксама першымі ў гміне заснавалі. І *млечарня* тут таксама першай паўстала, пазней у Бандарах, у Юшкавым Грудзе. А ў Шымках? — пытаю. У Шымках не было, толькі ў Навасадах тут была, прывозілі да нас малако з Залешан, Ялоўкі, Цісоўкі. Спярша ўручную круцілі цэнтрыфугу, а пасля ўставілі маторык. Смятану вазілі ў Міхалова коньмі, бо не было яшчэ самахода. Навасады былі тут першай вёскай, калі ўсё засноўвалі за свае грошы. Для чаго патрэбныя былі краме паі, калі яна працавала ў прыватнай хаце? — цікаўлюся. Бо калі было больш грошай, то можна было за іх прывезці больш тавару. А пасля тую краму пераняў геэс, то ўжо спулдзельня клапацілася пра тавар.

Пытаю маіх субяседнікаў, калі былі пабудавалі краму ў Шымках. Але мае субяседнікі, да ліку якіх далучыўся ў міжчасе і мясцовы гміны радны, спадар Харытанюк, не маглі прыгадаць, ці сталася гэта пры Герку, ці раней. Пагаджаюцца, што будавалі там цэлы гандлёвы комплекс больш-менш адначасна — крамы і геэсаўскую базу. У базе прымалі каля двухсот свіней і пад сотню кароў у тыдзень. Тут Амерыка была! А цяпер *паны* ўсё ліквідавалі. Вось недалёка сенажаці, якія ўсе калісь косамі выкошвалі, а цяпер там птушак гадуюць. На полі лубін сеюць і траву; а дзе хлеб будзе? А як пяройдзем на еўра, то тады зубы мне трэба будзе зашчамляць. Бо ж туды ідзе, калі фабрык няма, і нічога няма...

Для суцішэння хвалявання пытаю пра асфальт, які выглядае даволі новым. І тут няма аднагалосся, ці тры гады таму яго паклалі, ці чатыры, ці пяць...

Можна было б і яшчэ пагаварыць, але ж я ладжу свае паходы з дапамогай публічнага транспарту, а час не спыняецца. Развітваюся са сваімі ветлівымі суразмоўцамі і падаюся далей. Вёска Навасады ўсё яшчэ на этапе трансфармацыі — большая частка хат выглядае па-новаму, яны аднаўленыя і задбаныя, меншая частка, на жаль, яшчэ чакае сваёй абнаўляльнай чаргі. У канцы вёскі за супольнай агароджай два крыжы: лацінскі і візантыйскі. Першы з іх змацаваны на невялікім валуне, на якім, магчыма, калісь быў нейкі надпіс, якога сляды, або і не-сляды, зацёр час. На цэментным пастаменце другога надпіс: „Силою Креста Твоего Господи сохрани насъ оть всякаго зла. Все упованiе наше на Тя возлагаемъ Матерь Божiя сохрани насъ оть бедъ. Сей пам. сооруж. крес. дер. Новосады 1901 ноябрь 29”.

У месцы, куды семдзесят гадоў таму сягнула савецкая граніца, зараз стаіць высокі драўляны лацінскі крыж, а за ім поймa рэчкі Цісоўкі, якая зараз у выглядзе буйнаватага рова. Ад Залешан, якіх першыя будынкі здаюцца выходзіць з поймы Цісоўкі, даходзіць стук ручных ударных прыладаў — на адным з панадворкаў сабралася дружына мужчын, якія раскідаюць стары дах хаты. Крыху далей на вулічнай лавачцы прысеў пажылы мужчына; прысядаю і я да яго.

Хачу даведацца, як выглядала жыццё ў Залешанах у чатырохгадовы пасляваенны савецкі перыяд. Але майго новага субяседніка ў той час у вёсцы не было. У час вайны трапіў ён на прымусовыя работы ва Усходнюю Прусію, трапіў ён пад Клайпеду, а адтуль саветы забралі яго ў часовы лагер каля Дзвінска, з якога пасля ўдалося яму ўцячы. Калі пакідаў Прусію, важыў дзевяноста два кілаграмы, а калі вярнуўся з савецкага лагера, важыў пяцьдзясят два кілаграмы. Лагер быў за Дзвіною і цераз раку траіх уцекачоў перапраўляліся на рассохлай лодцы. Увесь час трэба было вычэрпваць ваду, але ўдалося даплысці на патрэбны бераг пакуль яшчэ лодка трымалася на плаву. А пасля прабіраўся побач Вільні і Гродна дахаты; у родную вёску прыйшоў, калі ўжо яна апынулася ў Польшчы, але людзі тады былі спагадлівыя і ўдалося вярнуцца да родных.

А ў залешанскай школе дзеці пасля вайны вучыліся, з саміх Залешан і з залешанскіх калёній было каля сарака дзяцей. А цяпер школьны будынак запушчаны, ніхто пра яго не дбае, што было можна расцягнуць, тое расцягнулі — шкадуе мой субяседнік. Пытаю пра дарогу, якая каля былой школы выходзіць за вёску і далей мае пралягаць у напрамку Шымкаў, падыходзячы ў адным месцы амаль усутыч да граніцы. І ў адказ чую, што там лёгка паблытаць дарогі, трэба ўважаць, каб не патрывожыць беларускіх пагранічнікаў...

Вёска Залешаны, хаця яна пад самай граніцай — здавалася б на канцы свету, не выглядае, аднак, на запушчаную; панадворкі прыстойна задбаныя а пакінутых хат тут амаль няма. Гэта не так, як у вершы ўраджэнца недалёкай Цісоўкі Багдана Дудко, дзе быццам *вёска забітая наглуха дошкамі перагнілымі ад тугі за мінулым.* Перад шматлікімі хатамі лацінскія крыжы — адзнакі каталіцкай прыналежнасці яе жыхароў. Аж да былога школьнага будынка, што на канцы вёскі, вуліца вымашчана асфальтам. А ў канцы XIX стагоддзя ў Залешанах, паводле Слоўніка Каралеўства Польскага, былі 1162 дзесяціны мужыцкай зямлі, з гэтага ліку 380 сенажацей, 10 лесу і 54 няўгоддзяў; колькі ў вёсцы пражывала душ, Слоўнік не падае...

Перад былой школай ад вуліцы адыходзіць вузкая вулачка, якая за вёскай буйнее да шырыні тыповага гасцінца. Спачатку на ёй выразныя каляіны трактара, якія становяцца ўсё больш кволымі. Навокал мая, як у вершы Багдана Дудко: *на палях ужо толькі кветкі і птушкі лугі зусім ужо не тыя самыя высахлі балоты.* Ды гасцінец той вымашчаны адно спрадвечным грунтам, штораз больш зарастаючым травой, у больш балоцістым грунце з'яўляюцца тыповыя для такога насцілу ямы, след дарогі становіцца менш прыкметным і паяўляецца дрыжыкі эмоцый, што можна там неасцярожна сустрэцца з замежнымі пагранічнікамі ды нават зачапіцца на нейкі час за непрадбачаныя прыгоды. Пільна ўглядаюся ў набліжаючуюся сцяну лесу, што з левага боку, ад граніцы, але пазнак граніцы, гранічных слупоў ды адпаведных асцерагальных шыльдаў, не відаць. Кволая дарога ўваходзіць у лес, там яна выразнее, загібам паварочвае направа. Там жа, край таго загіба, павінна быць граніца — так паказвае мая карта, так паказваюць таксама здымкі з Гугла. Але і там няма пазнак дзяржаўнай мяжы і мая душа паволі вяртаецца на сваё месца. А дарога паступова набірае дарожнай моцы, становячыся шыкарнай жвіроўкай, уліваючайся перад Шымкамі ў асфальтоўку. На яе скрыжаваннях з іншымі дарогамі вартуюць засцерагальныя крыжы — уперамен лацінскія з візантыйскімі — засцерагальная ад нячыстых сіл шматканфесійная кааліцыя...

А ў Шымках зараз працуюць дзве крамы, у цэнтры вёскі, у зусім непрадбачаным для Другой Польшчы месцы...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Ігра ў Крынкі



**Уяві сабе, што на адзін дзень твой горад замяняецца ў настольную гульню. Табе даюць інструкцыю, з якой адпраўляешся ў вандроўку і адкрываеш усё з іншага боку. З такой прапановай у вераснёвую нядзельку выйшлі да крынчан „пагранічныя” — маладыя і дарослыя дзеячы варшаўска-крынскага Аб’яднання практыкаў культуры.**

— „Кахаю”... і што далей? — пытаецца ў мамы Данель.

„Наклей любоў на мур” — гэта назва аднаго з васьмі этапаў „Гульні ў Крынкі”. На вуліцы Касцельнай, пад пакрытым непрыстойнымі заўвагамі мурам суполкі „Артэз” ігракам трэба напісаць нейкае прыемнае слова. Не ўсе паспелі навучыцца складаць літары, таму на папяровых хмарках паяўляюцца таксама малюнкі любімых жывёлак, сямейнікаў і сяброў. Прыемныя хмаркі амаль цалкам закрываюць варожае графіці.

— Лепш прывесці дзяцей сюды, чым пакідаць іх перад тэлевізарам, — кажа спадарыня Іаанна з Крынак, маці школьнікаў Данеля і Міхала. — Запрашэнне да ўдзелу ў мерапрыемстве я атрымала на працы, непасрэдна ад моладзі, ангажаванай у гэтую акцыю. Я зусім не ведала, што тут будзе.

Свайго сына прывёў таксама спадар Яраслаў.

— Я таксама нічога не ведаў, прабаваў шукаць па інтэрнэце нейкай інфармацыі, але нічога не знайшоў. Запрашэнне атрымаў ад крынскіх хадулістаў.

— Мая дачка Эмілька прымае ігракоў пры крывой трубе, — ганарыцца Барбара Гудалеўская. — Гэта супер справа, тым больш у Крынках, у якіх няма ніякіх ініцыятыў. Нават калі каму гэта не падабаецца, не трэба звяртаць увагі. Усім ніколі не дагодзіш. Дастаткова паглядзець на дзяцей, колькі іх тут. Сама я не прыйшла б. Дзеці мяне прывялі.

Нядзеля, чацвёртая гадзіна пасля поўдня. Аўтамабілі едуць пад крынскі касцёл, на вячэрняе набажэнства. Прыгожы спеў ксяндза праз гукаўзмацняльнікі раздаецца па ўсё мястэчка.

Некалькі метраў за касцёлам — уязны знак „Крынкі”. Тут ігракоў чакае „Крычы папросту”— чарговая, аказваецца надта складаная, задача. Адзін зварот — „Шчыра вітаем!” а як жа цяжка паўтарыць.

— Пан папрасіў сказаць слова па-руску.

— Па-руску? Не, па-просту?

— А мо па-беларуску?

— Не, па-просту.

— А мне той пан сказаў крыкнуць „Ш...ш...шавая вітаем в Крынкі”

— І што гэта абазначае?

— Не ведаю, ён не сказаў. Гэта я другі раз чую такую мову. Раней адзін п’яніца на вуліцы так крычаў, тады я таксама нічога не зразумеў.

— І я чуў простую мову,

— А дзе?

— У школе, на ўроках рускай мовы. Настаўніца гаварыла там па-беларуску, — абменьваюцца заўвагамі крынскія школьнікі.

— Я чула простую мову, — кажа Дар’я Бадавец. — Мая бабуля так размаўляе. Часам і да мяне загаворыць. І мама так умее. Гэта файна. Я крыху разумею, мне тая мова падабаецца.

— Што абазначае слова „жыд”? — на такое пытанне адказваюць гуртку „Пагранічных” пад руінамі Вялікай сінагогі.

— Жыд гэта жыццё, — мяркуе Патрыцыя.

— Гэта з урокаў гісторыі, на якіх пра жыдоў шмат гаворыцца, — адказвае Наталька.

— А мне Дональд Туск, — кажа Куба.

— Жыд асацыюецца мне з хамам і з цыганом, — сцвярджае Пётр.

— А я вам кажу, што жыд гэта цыган, — умешваецца Лукаш.

У публічнай бібліятэцы трэба скласці радок верша з выбраным словам.

— Мне як раз папалася „цемра” і я напісала „Цемра дома, недахоп металалома”, — кажа Наталька.

Там таксама бясплатна раздаюць дэбютанцкі зборнік „Паэзія з-пад палкі” на польскай і беларускай мовах (пераклад аўтаркі) крынскага гімназіста Шымона Станкевіча. Зборнікі ўручае сам аўтар.

У Гмінным асяродку культуры паказваюць фільм пад загалоўкам „Складаныя справы”, пытаюцца што такое талерантнасць.

— І я адказала: сяброўства і дапамога іншым, — прызнаецца Наталька.

На хадулях, пры ўваходзе ў Дом культуры па вуліцы Пілсудскага шпацыруе Матэвуш Анікей.

— Людзям, якія прыйшлі сюды на фінал, распавядаю розныя крынскія, гістарычныя цікавінкі. У маёй калекцыі: польскія і не толькі каралі ў Крынках; Першая крынская рэспубліка; Другая сусветная вайна ў Крынках; крынскія жыды; царква і праваслаўныя могілкі; касцёл; ліквідацыя гета; войны ў Крынках; узнікненне Крынак. Увесь матэрыял апрацаваў я самастойна, — ганарыцца малады навуковец.

Удзельнікі майстар-класаў „Пагранічныя”, ладжаных Аб’яднаннем практыкаў культуры, ужо чацвёрты дзень на пасту. Рыхтаваліся з чацвярга. З дапамогай каардынаткі праекта Лены Рагоўскай і яе сяброў praектавалі і друкавалі плакаты і лістоўкі, якія потым трэба было разнесці па горадзе. Сарганізавалі восем паасобных прэзентацый — вынікаў сваёй працы, выкананай на працягу апошніх некалькіх месяцаў. Усё ў васьмі гульнявых кропках рассыпаных па горадзе:

1. Хадулі ў басейне — старт.
2. Мур пад прадпрыемствам „Артэз” — наклей любоў на муры.
3. Уязны знак — крычы па-просту.
4. Крывая труба — скажы „ах”.
5. Руіны сінагогі — здымак з канікул.
6. Гмінны асяродак культуры — складаныя справы ў Крынках.
7. Бібліятэка — „Паэзія з-пад палкі”.
8. Кіно — Другая Крынская Рэспубліка — Фінал.

А на канец салодкія ўзнагароды.

„Пагранічныя” — стомленыя, але шчаслівыя, бо не спадзяваліся так вялікага водгуку на сваю акцыю з боку крынчан.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**




Грамадскія арганізацыі ў Беларусі, што маюць грамадска-палітычную накіраванасць у сваёй дзейнасці, наўрад ці будуць працвітаць за цяперашнім часам. Канешне, калі яны не выражаюць цалкавітую падтрымку існуючаму рэжыму. Процьма іх, калісьці ўзніклых з самымі высакароднымі мэтамі, з часам захірэлі і зніклі з грамадскага жыцця. Прычын іх смерці можа быць многа, але галоўная — не надта моцная прага дзейнасці ў кіраўніцтва. Але некаторыя з беларускіх няўрадавых грамадскіх арганізацый праяўляюць даволі зайздросную жывучасць, і з цягам часу не толькі не знікаюць, але нават развіваюцца, наколькі гэта магчыма ў сённяшніх беларускіх рэаліях.

Адным з прыкладаў такой жывучасці можна назваць гродзенскае грамадскае аб’яднанне „Трэці сектар”, пра сайт якога „Ніва” пісала дзевяць гадоў таму — у нумары ад 6 лістапада 2005 года. З той пары збегла многа часу і яго рака ўнесла ў нябыт і ранейшы сайт „Трэцяга сектара”, што месціўся па адрасе http://sektar.cjb.net. Паколькі цяпер гэтае грамадскае аб’яднанне мае зусім іншую вэбстаронку, то яна вартая таго, каб засяродзіць на ёй сваю ўвагу.

Новы адрас „Трэцяга сектара” ў інтэрнэце — http://3sektar.by. Выглядае сайт даволі проста, але ў той жа час прыцягальна. Рознакаляровая гама, якую выкарыстаў вэб-дызайнер, ствараe ўражанне нейкай лёгкасці і адначасова сведчыць аб дбайным падыходзе да віртуальнага прадстаўніцтва. У адрозненні ад папярэдняга гэты сайт „Трэцяга сектара” падзяляецца на дзве часткі. У першай, шырэйшай, што знаходзіцца злева, ідуць анонсы навінных паведамленняў. Прычым усе яны аздоблены фотаздымкамі. З правага боку — выйсці на разнастайныя праекты гэтай грамадскай арганізацыі, а таксама банэры сяброўскіх сайтаў.

Усе выйсці на рубрыкі месцяцца ўверсе цэлага выяўленя пад назвай сайта. Хоць сталы чытач „Нівы” ведае аб асноўных накірунках дзейнасці „Трэцяга сектара” з папярэдняй публікацыі дзевяцігадовай даўніны, тым не менш за прайшоўшы час яны крыху змяніліся. „На аснове беларускіх нацыянальных каштоўнасцей развіваем грамадскую актыўнасць сярод розных колаў насельніцтва шляхам інфармацыйнай і адукацыйна-асветніцкай падтрымкі дэмакратычных грамадскіх ініцыятыў”, — распавядаецца ў рубрыцы „Пра нас”.

Сярод цяперашніх зацікаўленняў „Трэцяга сектара” — інфармацыйная падтрымка грамадскіх ініцыятыў, грамадзянская адукацыя ў галіне журналістыкі, універсітэт Залатога веку: інтэлектуальная, сацыяльная і фізічная актывізацыя сталых людзей, развіццё мясцовых супольнасцей і сацыяльнай анімацыі, выданне літаратуры (у прыватнасці „Легенды і міфы: ад Нёмана да Буга”, „Традыцыйная кухня Беласточчыны і Гарадзеншчыны”), міжнародныя культурніцкія праекты, праекты па захаванні і папулярызацыі гістарычнай спадчыны Гародні, развіццё транспамежнага супрацоўніцтва паміж грамадскімі арганізацыямі і ініцыятывамі (у прыватнасці форум НГА Еўрарэгіёна „Нёман”, міжнародныя моладзевыя летнікі, абмен валанцёрамі).

Дарэчы, рубрыка „Пра нас” мае ажно чатыры моўных версіі — акрамя беларускай, з ёй можна азнаёміцца па-англійску, па-польску і па-руску.

А больш падрабязна і толькі на беларускай мове пра тое, што ўжо зрабіла гэтае грамадскае аб’яднанне, распавядаецца на старонцы „Дзейнасць”.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**




Беларус — кіраўнік турэмнага паўстання

## 90 гадоў з дня нараджэння
# Рыгора Клімовіча



Рыгор Клімовіч — адзін з герояў найноўшай гісторыі, змагар супраць савецкай сталінскай сістэмы. Яго лічаць кіраўніком Нарыльскага паўстання 1953 г. у савецкім канцлагеры, у якім удзельнічала каля 5 тысяч беларусаў. Менавіта ён напісаў гімн паўстанцаў „Не страшны нам тыранства бальшевізма”.

Нарадзіўся Рыгор Клімовіч 3 кастрычніка 1924 г. у вёсцы Шляхецкая Ваколіца (зараз Цярэшкавічы Гомельскай вобласці). Паходзіў з аднадворнай шляхты, якая ў сярэдзіне XVII стагоддзя была расселена ў ваколіцах Гомеля. У сярэдзіне 1930-х гг. бацька Рыгора быў „раскулачаны”. Паводле ўспамінаў Клімовіча да беларускай ідэі ён прыйшоў яшчэ ў дзяцінстве, калі чытаў беларускія кніжкі 1920-х гадоў, што яшчэ не папалі пад сталінскую цэнзуру.

Перад вайной Клімовіч паступіў у гомельскі тэхнікум. У канцы 1942 г. перайшоў лінію фронту і 6 месяцаў дабіраўся да Саратава, куды быў эвакуіраваны тэхнікум. У пачатку 1943 г. прыехаў у Маскву, дзе быў арыштаваны НКВД па абвінавачванні ў шпіёнстве. Яму хацелі інкрымінаваць забойства кіраўніка партызанскага атрада, які ў 1942 г. базаваўся каля Гомеля. У 1943-1947 гг. сядзеў у Свярдлоўскай турме. Тады ж напісаў некалькі дзясяткаў вершаў, скіраваных супраць сталінскага рэжыму. Клімовіча адправілі ў Горлаг, што пад Нарыльскам — у савецкі канцлагер асабліва строгага рэжыму ўтрымання.

У 1950 г. Клімовіча паўторна асудзілі на 10 гадоў — за антысавецкую дзейнасць. Да 1953 г. утрымліваўся ў Нарыльскай турме. Потым яго вярнулі ў Горлаг, дзе неўзабаве ён узначаліў паўстанне палітвязняў, якое пачалося 25 траўня 1953 г. і трывала цягам сарака дзён. Паўстанне было жорстка задушана войскамі МГБ, якімі кіраваў асабісты рэферэнт Берыі генерал Кузняцоў, а Горлаг быў расфармаваны. Унікальнасць Нарыльскага паўстання заключаецца ў мірным характары супраціву зняволеных. „Мы адчулі не страх, а пякучую нянавісць да катаў, — пісаў Рыгор Клімовіч. — Мы не кінуліся ўцякаць ад небяспекі, а рашуча сталі на месцы забітых”. Усяго ў час той карнай аперацыі забілі больш за тысячу няўзброеных людзей. Але паўстанцы, якія засталіся, перамаглі, бо Горлаг быў па сутнасці лагерам смерці, адкуль мала хто вяртаўся жывым. Вязняў развезлі па іншых лагерах з мякчэйшым рэжымам.

З канца 1953 г. па 1956 г. быў у турмах Уладзіміра і Іркуцка, а таксама ў Азёрлагу. За гэты перыяд яго яшчэ раз судзілі за адмову працаваць, але па амністыі Клімовіч быў вызвалены. На волі заняўся працай па згуртаванні вызваленых паплечнікаў. На пачатку 1957 г. было створана ядро арганізацыі, якая рыхтавала паўстанне супраць савецкага рэжыму. Але КГБ выявіла арганізацыю. Прайшлі арышты, Клімовіч быў затрыманы. Адзін з удзельнікаў арганізацыі, украінец Дужынскі, усю адказнасць узяў на сябе. А Клімовіч праз тры месяцы за брак доказаў быў выпушчаны на волю.

З 1957 г. па канец 1980-х гг., калі Клімовіч выйшаў на пенсію, ён знаходзіўся пад наглядам КГБ. Гэты перыяд свайго жыцця ацэньваў як „пасіўнае дысідэнцтва” У 1986 г. падрыхтаваў рукапіс успамінаў пад назвай „Канец Горлагу”, быў ганаровым прэзідэнтам некалькіх фондаў і арганізацый, якія займаюцца апякунствам ахвяр палітычных рэпрэсій. З пачатку 1990-х гг. актывізаваўся ў грамадскім жыцці.

Памёр Рыгор Клімовіч 1 ліпеня 2000 г.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# «Вішаньцы-чарэшаньцы» — 15 гадоў!

**21 верасня, на Прачыстую, у Сухавольцах Кляшчэлеўскай гміны адзначаліся дзве падзеі: асвячэнне пасля рамонту вясковай святліцы і 15-гадовы юбілей мастацкага калектыву «Вішанька-чарэшанька».**

Мерапрыемства пачалося ў 15 гадзін з малебна, які адслужылі настаяцель Кляшчэлеўскага прыхода а. мітрат Мікалай Келбашэўскі, а. Павел Нікіцюк і дыякан Лукаш Барташук у прысутнасці шматлікага кола жыхароў і запрошаных гасцей на чале з бургамістр Ірэнай Негярэвіч. Пасля цырымоніі асвячэння святліцы голас узяла спадарыня бургамістр:

— Рамонт святліцы каштаваў гміну 130 тыс. злотых, пры чым 70 тысяч зл. паступіла з еўрасаюзных сродкаў. Датацыі не хапіла на ўвесь кошт рамонту. Два памяшканні будуць добраўпарадкаваны ў пазнейшым тэрміне за кошт салэцкага фонду. Такім фондам вёска карыстаецца з 2012 года. Выканаўцам задачы было Гайнаўскае прадпрыемства камунальных паслуг. Спадзяемся, што адрамантаваная святліца будзе належна выкарыстана жыхарамі вёскі, а перш за ўсё мастацкім калектывам, на якога 15-гадовы юбілей зараз запрашаю.

Згуртаваная ў зале публіка перайшла на пляцоўку побач святліцы. Тут пачаўся юбілейны канцэрт «Вішанькі-чарэшанькі». З гісторыяй вёскі і мастацкага калектыву пазнаёміла бургамістр Ірэна Негярэвіч:

— Першая згадка ў летапісе аб Сухавольцах з'явілася ў 1568 годзе, калі кароль Жыгімонт Аўгуст перадаў мястэчка Кляшчэлі ў арэнду падкамораму Станіславу Хандзынскаму. У прыдачу да арэнды далучыў шэсць сёлаў Бельскага староства: Жарывец (Дубічы-Царкоўныя), Обыходнік (Грабавец), Чохы (Чахі-Арлянскія), Елянку, Сухую Волю (Сухавольцы) і Руду (Рутку). Далучаныя сёлы стварылі Кляшчэлеўскую воласць. Зараз вёска налічвае больш за сто дамоў. Солтысам з'яўляецца Міхал Казімерук, самай старэйшай жыхаркай — Надзея Гілеўская, якая тры гады таму адзначыла стогадовы юбілей. Мастацкі калектыў «Вішанька-чарэшанька» арганізаваўся 15 год таму на базе царкоўнага хору, у якім выступалі Антаніна Негярэвіч, Таіса Беляк, Барбара Зімнох, Галена Сахарчук, Вольга Рута і Лідзія Багроўская. Ідэю пачаць культурную дзейнасць прад'явіў дыякан Лукаш Барташук. Назву гурту прыдумалі самі ўдзельнікі. Спадабалася ім «Вішанька-чарэшанька». Пявунні ў час літургіі співаюць у мясцовай царкве св. Марыі Магдаліны, а на культурных мерапрыемствах прэзентуюць тутэйшы фальклор. І так ужо доўжыцца пятнаццаць гадоў.

З нагоды юбілею бургамістр пажадала ўдзельнікам калектыву плённых вынікаў у працы на культурнай ніве, поспехаў у сямейным жыцці і моцнага здароўя на многая лета.

На сцэну заходзяць юбіляркі. Паступаюць віншаванні і ўручанне падарункаў ад рады гміны, радных, мастацкіх калектываў «Чыжавян» з Чыжоў, «Каліны» з Дашоў, пявунь з Дабрывады... Затым пачынаецца канцэрт. Першымі выступілі юбіляркі. Запрэзентавалі яны публіцы добравядомыя песні: «Ой оралі хлопцы зэмлю», «Ой чаму ж я некрасіва», «Закувала сіва зязюля», «Вінавата лі я». Варта адзначыць, што калектыў папоўніўся адным членам мужчынскага полу, музыкантам Васілём Негярэвічам, які падыгрываў пявунням у час выступу. Публіка ўзнагародзіла самадзейнікаў бурнымі апладысментамі. Пасля выступілі «Мікстуркі» пад кіраўніцтвам Ігара Фіты, ды салісткі Ева Зіневіч і Сільвія Камінская з украінскімі гітамі. Для перамены «Каліна» з Дашоў запрэзентавала дзве гумарэскі: «Бацькоўскае благаслаўленне» ды «Суседкі». Паспяхова прэзентаваўся калектыў «Чыжавяне» з Чыжоў. «Не прыходзьце хлопцы рана», «Ляцеў воран», «Квітні мой сад», «Чырвона рута», «А я бачу, бачу як ты волы гнала», «Ехаў козак з-за Дунаю» — гэтымі песнямі госці з Чыжоў заваражылі публіку. Пасля кожнай песні гучалі доўгія воплескі. А завяршала канцэрт «Падляшская капэла» з Сямятыч пад кіраўніцтвам Зянона Селеваноўскага, нотабена дырэктара кляшчэлеўскага МОКСіРу. Варта прыгадаць, што партнёрам на сцэне як і на працы спадара Селеваноўскага з'яўляецца вядомы вакаліст капэлы Марк Скамароўскі. Гэта яму выпала на долю быць вядучым на юбілейных святкаваннях «Вішанькі-чарэшанькі» ў Сухавольцах. А рэпертуару гэтага гурта, як і музыкантаў не трэба рэкамендаваць. Добра вядомыя яны на Падляшшы.

Калі на пляцоўцы адбываўся канцэрт, у зале святліцы «Вішанька-чарэшанька» арганізавала святочны банкет для запрошаных гасцей. Сталы ўгіналіся ад яды і напіткаў. Усё было смакавітае. А пачастунак падрыхтавалі ўдзельніцы калектыву пры фінансавай дапамозе шматлікіх спонсараў. Прыемна было пагасцяваць у Сухавольцах на Прачыстую.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

## Адгаданка

1. гранічная рака між Польшчай і Беларуссю, 2. возера Максіма Танка, 3. круты схіл, адкос берага ракі, 4. урачысты верш, 5. між галавой і тулавам, 6. цемра, 7. прадмет пасцелі ў выглядзе доўгага мяшка, напоўненага мяккім пер'ем, 8. баравік, масляк або рыжык, 9. гранічная рака між Польшчай і Беларуссю.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — кітайская пагаворка.

(ш)

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | | | | | | 3 |
| | | | 4 | 5 | | | |
| | | | | | 6 | | |
| | | | | | 7 | | |
| 8 | | 9 | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 37 нумара**

Веліж, гаць, мох, пойма, сыта, тон.

Рашэнне: **Хто многа спіць, той мала жыве**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Міхалу Байко** з Беластока.

## 05.10 — 11.10

**(22.03. — 20.04.)** Будзеш перапоўнены энергіяй, твае рашэнні будуць беспардонныя, зробіш смелыя змены. Добрая псіхічная і фізічная кандыцыя. 5-6.10. магчымая непатрэбная барацьба; пільнуй здароўя, лёгка можаш скалечыцца, трапіць у аварыю. 10.10. сустрэнеш кагосьці падобнага да цябе — быстрага і творчага. 7-9.10. не вырашай важных спраў, лёгка можаш памыліцца.

**(21.04. — 21.05.)** 6-10.10. не паддавайся нічыім намовам, бо хутка пашкадуеш; нялёгкія адносіны з партнёрам. Трымай эмоцыі ў руках! 9-13.10. памылковыя рашэнні; трымайся ранейшых вызначэнняў. Першыя тры тыдні не шкадуй часу на дактароў. Аж да 23.10. маеш шанцы паказацца перад шэфам і супрацоўнікамі.

**(22.05. — 22.06.)** 8.10. можа паявіцца хтосьці, для каго страціш галаву! Венера падтрымае цябе ў любоўных дзеяннях аж да 23.10.! Ад 10.10. яшчэ большае ажыўленне і ў інтэлектуальных кантактах. З 9.10. дома крыху напругі. Сядзь на лёгкую дыету, вынікі хутка ўбачыш. Шыкуецца нялёгка праца; змагайся за сваё. Ды 7-11.10. магчымыя праблемы ў партнёрстве; не падпісвай дамоў. Аж да 25.10. спавольніш тэмп; старайся да жыцця падыходзіць з дыстанцыяй.

**(23.06. — 23.07.)** Знакаміта дагаворышся з іншымі. 8-12.10. прыйдуць цудоўныя фінансавыя нагоды! Дамагайся таго, што табе належыцца, старайся за павышэнне і афармляй цяжкія справы. Сілы і энергіі будзе хоць адбаўляй, старайся разгрузіць іх талкова, бо адаб'ецца гэта на тваім... стрававванні, асабліва на пячонцы. Першая палова месяца — ідэальны час пахудзець. І скарыстай з капіталаўкладанняў, з якіх будзе хуткі прыбытак.

**(24.07. — 23.08.)** 8-12.10. можаш брацца за рызыканцкія фінансавыя рашэнні; зловіш усё на ляту! 5-6.10. не фарсіруй сваіх поглядаў, бо з канфлікту выйдзеш адлупцаваны. 5-9.10. — прага парваць звязваючыя сувязі і таксічныя знаёмствы. З 8.10. шанцы выгладзіць нялёгкія рэляцыі, але і сімпатычнае знаёмства. Не дай сябе лішне выкарыстаць дома. Дбай аб сэрца. Хваробы ў кастрычніку хутка мінуць. Праца будзе ісці не найлепш увесь месяц, дык выконвай толькі свае абавязкі.

**(24.08. — 23.09.)** Час на важныя размовы, усё ўдасца. Даглядай сваіх інтарэсаў, каб не падвергнуцца стратам. 7-11.10. магчымыя праблемы ў адносінах і страшэнныя скандалы. Дбай аб суставы і горла. 6-10.10. пазбягай разглядання юрыдычных ці судовых спраў. Чакае цябе сур'ёзны пералом у прафесіі.

**(24.09. — 23.10.)** Аж да 24.10. будзеш як магніт! Кругом цябе будзе поўна аматараў. Але 5-10.10. у пары эмоцыі возьмуць верх. У сужонстве — цэлая палітра пачуццяў. 6-10.10. не рабі нічога на сілу ў пачуццях. Будзеш турбавацца здароўем, адразу ідзі да доктара, парабі абследаванні. 5-13.10 вельмі асцярожна падыходзь да ўсіх фінансавых абавязацельстваў.

**(24.10. — 22.11.)** Час поўны жарсцяў. Паддайся фантазіі — можаш перажыць незабыўны раман! 6-10.10. прыцягнеш да сябе шчасце, паявіцца мноства нагод і магчымасцей. Твой дом — аазіс спакою; адчуеш патрэбу змен. Пазбягай злых знаёмстваў. Увесь месяц — добры час на рэабілітацыю, біялагічныя і касметычныя працэдуры, і снаванне інвестыцыйных планаў; інтуіцыя падкажа добры выбар.

**(23.11. — 22.12.)** Час для адважных, і ты руш уперад! Хаця адчуеш ціск абавязкаў. Аж да 26.10. маеш адвагу ад Марса! Сустракайся з сябрамі. 6-10.10. не карыстайся няпэўнымі прапановамі, бо трапіш у кабалу. Доўгую дарогу адкладзі на пазней.

**(23.12. — 20.01.)** Прыемныя неспадзяванкі і кранаючыя расчараванні. Час для тых, хто любіць рызыку. Але 5-6.10. пазбягай кампанейскіх сустрэч і падлізаў. 8-9.10. будзеш ашаломлены, нічога сур'ёзнага не дэкларуй. 7-13.10. не афармляй важных сямейных спраў. Не даказвай таго, што мае адбыцца. Трымайся сваіх планаў.

**(21.01. — 19.02.)** Прыйдзецца вярнуцца да спраў, якія, здавалася б, ты ўсе аформіў. З 9.10. не бярыся за тое, што перарастае твае сілы. 5-7.10. будзеш моцны і трывалы, дастанеш тое, што хочаш, зробіш вялікі крок уперад, справы набяруць тэмпу. Але ж 6-9.10. магчымыя сямейныя складанасці, нялёгкія перашкоды, пазбягай вырашэння фінансавых спраў. З 9.10. пільнуйся, перад кім адкрываеш сэрца.

**(20.02. — 21.03.)** Руціна ў пачуццёвым жыцці. Будзеш спакойны, заробіш вялікія грошы. Але 7-9.10. будзь разважлівым пры інвестыцыях; магчымыя страты, таксама не пазычай і не бяры крэдытаў. Дома вырашыш кожную справу, паможа табе ў гэтым жалезная дысцыпліна. А прыемнасцей не адкладвай.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7:00 – 18:00. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2014 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

(пачатак у 38 н-ры «Нівы»)



# Украіна
## ў цяні вайны (3)

Сучасны чалавек не верыць у рэальную пагрозу вайны. Ён не паверыць у яе нават тады, калі загінуць людзі ў суседнім квартале і згараць дамы на суседняй вуліцы. І нават тады, калі разбураць яго дом і пераб'юць палову яго сям'і.

У львоўскай кавярні, дзе ў набрынялай цішыні грымеў тэлевізар, якраз паказалі рэпартаж з Данецка. Маладое сужонства заявіла пра божую ласку, што сустрэла іх вуліцу. Жыхары суседняй вуліцы не мелі такога шчасця, іх дамы ўжо зруйнаваныя і раскрадзеныя. Людзі таксама былі вымушаны шукаць прытулку ў сваякоў, збегчы ў Расію або на Захад Украіны.

— Мы не думаем нікуды ўцякаць, — гаварыў упэўнена бацька сям'і, — застанемся на месцы, да канца. Ніякай пагрозы тут няма, усё пад кантролем. А чаму? Бо іх вуліцу ахоўвае Божая Маці! Хочаце доказ? Калі ласка: тры разы кінулі снарад на іх панадворак і нейкая сіла не дазволіла ўзарвацца.

Пасля паказалі кадры гэтай абранай і дастойнай вуліцы. Усе дамы былі прыаздоблены іконкамі або святымі абразкамі. Карціну спакою разбівалі адно бяздомныя сабакі і каты, якія нервова ганяліся па вуліцы, быццам не ведалі дзе схавацца і да каго прытуліцца.

У наступных тэлеперадачах з фронту тэма святых абярэгаў паслядоўна паўтаралася. Іконкі і святыя абразкі прыляпілі на свае танкі ўкраінскія войскі.

Матыў божай аховы яшчэ мацней адзначалі расійскія СМІ. Іконы на танках данецкіх апалчэнцаў мелі ўдвая большыя памеры! У цэласці адчуваўся дух канкурэнцыі: хто лепшы, больш справядлівы і дастойны ў Бога.

* * *

Затое ў рэальным жыцці не хапала зразумення для рэлігійных прынцыпаў і традыцый. Якраз у апошні дзень Спасаўскага посту, — гэты дзень у праваслаўнай царкве параўноўваюць да Вялікай пятніцы, — адзначалі Дзень сала. Цэнтральны фэст у гонар сала наладзілі ў музеі пад Кіевам. Гэта быў першы і найбольш папулярны ньюс у СМІ. На свяце прэзентавалі блок з сала стопяцідзесяціметровай даўжыні. Яго кроілі на кусочкі прыгажуні ў нацыянальных касцюмах і прадавалі публіцы, якая зляцелася на свята, быццам мухі да мёду. Увесь заробак, згодна апошняй традыцыі ў краіне, меў падмацаваць украінскую армію.

Тэму яды ахвотна падымалі шафёры маршрутак і пасажыры мужчынскага полу. Гэта было найбольш нечаканым. Мой ранейшы досвед падказваў адваротнае: дзе трох мужыкоў, там абавязкова і гутарка пра вайну.Украінскія мужчыны ўсё перажоўвалі траўму ад пасляваенных ссылак у Сібір. Ад гэтай трагедыі пацярпела кожная другая сям'я ў Заходняй Украіне. Таму ў сяброўскіх спрэчках яны па-казацку распраўляліся *з маскалём* ды на кожным кроку адчувалі і бачылі ад іх пагрозу...

Зараз ваяцкай паэтыкі, так натуральнай і патрэбнай ва ўмовах рэальнай вайны, не хапала.

— А ты ўжо злажыў капусту на зіму? — спытаў шафёр у пасажыра, які прысеўся на фатэлі побач. Звычайна, на гэтае прэстыжнае месца залазіць сябра або сваяк кіроўцы. Яны найбліжэй святых абярэгаў. У кожнай маршрутцы над галавой кіроўцы красуецца галерэя, састаўленая са святых іконак і абярэгаў.

— Вядома, злажыў капусту, — адказаў пасажыр на першым фатэлі.

Пасля мужыкі абмяняліся рэцэптамі на слоікі з капустай. Найбольш прызнання атрымала капуста з чырвоным перцам і кропам.

— Шкада, што няма ўжо дубовых кадушак і бочак, — наракаў шафёр. — У іх жа найлепш накісіць капусту цэлымі галоўкамі. Якая гэта класная закусь!

* * *

Пасля чатырох гадзін язды на маршрутцы мы апынуліся ў Пачаеве, дзе славутая Лаўра. Яе пачатак зрадзіўся з ваявітай легенды, калі на дапамогу праваслаўным з'явілася сама Божая Маці ў агні, каб перабіць няверных арагнцаў. Дзесьці ў дарозе, за Бродамі, мы мінулі маладую жанчыну ў паломніцкім строі, з модным рукзачком. Яе адзінокасць прамаўляла нейкай траўмай. Дадаткова, гэтую тоненькую і хісткую постаць паліваў халодны дождж, які ўжо трэці дзень запар лупіў з набрынялага, цёмнага неба. Нягледзячы на халоднае і сырое надвор'е, нас саграявала адна думка. У пасёлку мы адразу адправіліся да добрай сяброўкі, якая жыве ў падножжа Святой гары. Надзя, пакуль не пасадзіла нас за стол, каб пачаставаць гарачай гарбатай, глядзела на нас з недаверам, а пасля заплакала...

Якраз, за яе парогам мы ўпершыню адчулі змрочны цень вайны.

— Адны палякі, літоўцы і беларусы нас не пакінулі ў бядзе, — пачулі мы замест прывітання.





Пасля вячэрні, калі закончыцца Спасаўскі пост, Надзя пачастуе нас далікатэсамі са свайго агарода. Парэчкавым вінам і сочывам з малін. З гонарам пакажа нам запасы, зробленыя на зіму. Яе кладоўка прамовіла як мастацкая карціна. На паліцах выстойвалі слоікі з марынаванымі памідорамі, агурочкамі, цукініяй і грыбамі. На падлозе красаваліся каляровыя кампоты і слоікі з салам. Пасля гаспадынька павяла нас на гарышча, каб пахваліцца чатырма відамі віна, плеценымі вянкамі цыбулі, часнаку і кукурузы...

— Гэта пад вайну? — спыталі мы.

— Украінскія пенсіянеры і сяляне так сустракаюць кожную зіму, — здзіўляецца пытанню Надзя. — Гэта ўсё ад бяды, у якой прыйшлося жыць-гараваць. Украінскі пенсіянер пасля „рэформаў" Януковіча, які зраўняў усе пенсіі, атрымліваў сто долараў. А зараз, калі грыўня стала падаць, гэта ўжо 80 долараў. Такія людзі як мы, — кажа наша сяброўка, — нават не заходзяць у маркеты. Мяса купляем у гаспадароў, а ўсё апошняе вырастае ў агародзе або ў лесе...



Фота Дыяны Нахіла

Сёлета як ніколі абрадзілі грыбы і гэта зусім... не цешыць людзей.

— Бо нашы людзі кажуць, што гэты ўраджай на вайну, — паясняе нам Надзя.

*(праця́г будзе)*

Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960